ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# НАПАГАТОВЕ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ВАЕННА-АБАРОНЧАЯ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ ЧАСОПІСЬ— ОРГАН АРГКАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР



ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
Л. АРАНШТАМА (адказны рэдактар),
АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА,
Л. БЭНДЭ (намесьнік рэдактара),
Я. ГОЛЬДМАНА, К. КРАПІВЫ
і ІВ. ШАПАВАЛАВА

№ 2
КАСТРЫЧНІК
1932

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК—1932

# ЗЬМЕСТ



## Клубам і эстрадам



## Крытыка і публіцыстыка



## Бібліаграфія



## Кансультацыя



Уп. Галоўлітбелу № 1051. Зак. 3906—6000 экз. Гомель. „Полесдрук“.

# ГОРКІ!

Для армії, байцы якой „павінны ведаць усё ці як мага больш", для арміі, якая зьяўляецца „ня толькі баявой сілай, але і культурнай сілай", для рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, што грудзьмі закрывае доступ ворагам пралетарскай рэвалюцыі ў межы аднэй шостай часткі сухазем'я вырванай, адваяванай у клясы, якая аднэй нагой стаіць у „магіле", своячасова вырытай для яе гісторыяй, але якая ўпарта не жадае ў гэтую магілу легчы, для нашай арміі, для кожнага з нас, яе байцоў, нявымерна дорага, безгранічна любіма і паважана імя найвялікшага пралетарскага майстра слова — Аляксея Максімавіча Горкага.

Што-ж робіць Горкага такім блізкім, такім родным для нас?

Адказ на гэтае запытаньне крыецца ў самай сутнасьці нашай арміі.

Армія Савецкага саюзу — адзіная ў сьвеце армія, у задачы якой не ўваходзіць грабежніцкі налёт на больш слабага з мэтай грабяжа.

Армія Савецкага саюзу — адзіная ў сьвеце армія, баяздольнасьць, якой будуецца не на ператварэньні людзей у „шэрую жывёлу", якой разважаць „строга забараняецца", а на палітычнай сьвядомасьці.

Армія Савецкага саюзу — адзіная ў сьвеце армія, якая зьяўляецца магутнай зброяй міра.

Ці-ж ня ясна, што такая армія ня можа ня любіць, ня можа не паважаць пісьменьніка пралетарыяту, палкага змагара за камуністычнае заўтра і сацыялістычнае сёньня, пісьменьніка, што выкрывае, ганьбіць усіх і ўсялякіх ворагаў, для ўзброенай барацьбы з якімі створана Чырвоная армія.

А менавіта такім пісьменьнікам зьяўляецца тав. Горкі.

Глыбока ненавідзячы і ганьбячы лад, які даў магчымасьць „купцы марально-тупых людзей, якія вырадзіліся, кіраваць сьветам", лад, які „рабуе рабочых людзей і прымушае абрабованых абараняць сябе — драпежніка, — Горкі ўсёй сілай свайго магутнага таленту, усёй сілай, якая чэрпаецца мастаком з гушчаў узыходзячай клясы, зрушваецца на гэты лад, зрывае з яго прыслужнікаў і лёкаяў усіх колераў усе і ўсялякія маскі і кліча на барацьбу з ім, кліча ў бой за права быць чалавекам на зямлі.

З вялізарнай мастацкай сілай, у незабыўных мастацкіх вобразах Горкі выцягвае на сонечнае сьвятло ўсю „сьвінцовую мерзасьць" сыстэмы прыгнечаньня чалавека чалавекам і ў такіх-жа незабыўных вобразах кліча на барацьбу, арганізуе сіламі мастацкага слова сілу, энэргію і волю да перамогі клясы, прыгнечанай на пяці шостых і заваяваўшай сабе крывёю лепшых сваіх сыноў свабоду на аднэй шостай сьвету.

За гэта любяць Горкага пралетары і ўсе працоўныя.

За гэта ня можа ня любіць Аляксея Максімавіча і ўзброеная сіла дзяржавы працоўных — Чырвоная армія.

Мы любім яго за тое, што нашы ворагі яго ненавідзяць.

А ненавідзяць яны Горкага заслужана, бо мастак падпісаўся пад іх сьмяротным прысудам: „Калі вораг не здаецца яго зьнішчаюць" — пад гэтым лёзунгам Аляксея Максімавіча Чырвоная армія падпісваецца кулямётнымі чэргамі — сёньня — на шчытах мішэняй, каб заўтра, калі нас прымусяць абараняцца, заверыць гэты подпіс на „баявых адзінках" ворага.

Горкі--баец.

Горкі—чырвонаармеец яяра.

Тым горш для ворагаў сацыялістычнай рэвалюцыі.

Тым радасьней і ўпэўненей мы, яе байцы, рыхтуемся да нямінучага бою.

Мы ганарымся Горкім-байцом.

Горкі, апрача таго, дужа пільны, дужа патрабавальны, высока кваліфікаваны настаўнік.

Пад кіраўніцтвам Горкага расьце новая зьмена байцоў-мастакоў слова і ў гэтай зьмене значнае месца займаюць маладыя пісьменьнікі Чырвонай арміі.

З вялізарнай увагай на, стойлівасьцю, любоўю Горкі працуе над узрошчваньнем выхаваньнем, разьвіцьцём гэтай зьмены.

Мы ганарымся сваім настаўнікам.

Мы ганарымся, што належым да клясы, якая нараджае такіх, як Горкі.

Мы ганарымся, што разам з Горкім працуем і змагаемся пад кіраўніцтвам партыі, што арганізуе і накіроўвае сілы рабочае клясы і неад'емную іх частку—талент мастака-барца тав. Горкага.

Таварышу Горкаму—баявое чырвонаармейскае прывітаньне!

# МАКСИМ ГОРЬКИЙ БОЙЦАМ КРАСНОЙ АРМИИ

Бойцам Красной армии—пламенный привет! В те дни, когда в товарищескую среду вашу входят тысячи молодежи со всего Союза советов, вам, бойцы, надобно особенно четко помнить, что Красная армия—школа культуры, что в ней бойцов учат действовать не только винтовкой, но и сильнейшим оружием в мире—разумом Маркса и Ленина, разумом партии рабочих-большевиков. Вся сила этого оружия направлена против капитализма, источника всех бедствий человечества и всех болезней разума людей.

Ваши враги—собственники, ваши друзья—пролетарии. Собственники, защищая свою власть и жизнь, снова пытаются затеять бойню.

Едва ли это удастся им, но все же вы всегда должны быть готовы к бою и особенно помнить, что вам—страже Союза советов, придется работать разумным словом не меньше, чем штыком.

Пролетарии всех стран знают, кто и где их друзья, и очень возможно, что по вашему примеру они повернутся всей силой своей против своих хозяев.

## ПРИВЕТ ВАМ, БОЙЦЫ! НАКАПЛИВАЙТЕ ЭНЕРГИЮ, ЗНАНИЯ, ДИСЦИПЛИНИРУЙТЕ ВОЛЮ И РАЗУМ. ПРИВЕТ!

# ИЗ ПИСЬМА МАКСИМА ГОРЬКОГО ПОЛИТОТДЕЛУ ГУПО И ВОГПУ

Мне, товарищи, приходится очень много читать рукописей начинающих авторов. Огромное большинство их должно быть полагает, что литература—труд легкий, а это не верно. Работа писателя вообще нелегкая работа, а ў нас она особенно трудна. Трудна потому, что ответственность советского писателя перед его читателем неизмеримо глубже



и тяжелее, чем ответственность буржуазных писателей. Советский писатель имеет своим материалом людей, которые создают новую жизнь, новую историю, людей, чья энергия преобразует весь мир, расшатывает разрушае все вековые устои старого мира. Изобразить их работу, их характеры, чувства, мысли нельзя приемами простой протокольной регистрации факта. Этот прием, опрощая великое дело социалистического строительства, низводит его на плоскость обыденщины, лишает факты убедительности, а людей красоты и силы. Я очень советую вам не торопиться с изданием сборника. Нужно собрать значительно больше материала и более тщательно обработать его. Пытаясь изобразить мощную руку пролетариата—новатора, нельзя ограничиваться описанием ее мизинца, да еще неумелым описанием.

Привет.

*М. ГОРЬКИЙ.*

28-VII—32 г.

ПЯТРО ГЛЕБКА

# КАМАНДЗІР БЯЛІНСКІ

А ВОСЬМАЙ гадзіне раніцы камандзір трэцяга ўзводу Бялінскі вёў эскадрон на купаньне. Яшчэ задоўга перад гэтым, дарогаю ў лягер прыгадалася яму ўчорашняя няўдача на стрэльні і быў ён цяпер пахмуры і суровы. Моцна заціяўшы вусны, ён—высокі і стройны—ступаў цьвёрда і шырака. Праўдзівей—ня ступаў, а бегаў, перабягаючы з аднаго на другі паўмежак. (Падобна ходзіць чалавек, у каторага баляць зубы). Хада прыносіла палёгку. Але хацеласяісьці яшчэ шпарчэй, ступаць яшчэ цьвярдзей, каб зьнемагчыся дарэшты фізычна, каб гэтая зьнямога цела спаралізавала працу думкі, прынесла поўны спакой—забыцьцё.

— Давай крок... Крок давай!—І сам ішоў шпарка і стройна.

Хлопцы добра ведалі характар свайго камандзіра і таму ішлі маўклівыя і настарожаныя, каб выпадковым непатрэбным словам ня ўразіць сьвежай яшчэ раны, якую Бялінскі перажываў балюча і востра. Дзіўная яго натура! Здавалася-б, што-ж такое, калі ягоны, Бялінскага, разьдзел уступіў учора першае мейсца па страляньню другому? Але жыцьцё прывучыла глядзець на рэчы іначай: яно не пялегавала і ня песьціла яго змалку, скупа (можна сказаць, як скнара) дарыла ў юнацтве. Гэта прывучыла даражыць кожным здабыткам, трымацца за кожны промень радасьці аберуч, але-ж гэтая скупасьць лёсу парадзіла яшчэ і вечнае нездавальненьне дасягнутым, вечнае імкненьне да лепшага.

Бялінскі перайшоў вялікі і цяжкі жыцьцёвы шлях. Не засталося ад гэтага і каліва ператаптанага пяску на нагах, але ў памяці ляглі глыбокія сьляды скрыжаваных дарог і пераможаных прапон. Сама сабою ўрасла ў нутро ўпартасьць і воля, пакінуўшы ў сэрцы куток для весялосьці і чуласьці, для чалавечай спагады. Яшчэ пакінуў сабе Бялінскі з сваёй мінулай практыкі адно правіла: унікай у кожную дробязь сам і правярай людзкія словы паводле іхняй дзейнасьці. І от, цяпер, успомніўшы, што ён яшчэ ня быў у стайні, Бялінскі загадаў малодшым камандзірам весьці ўзводы, а сам забег туды.

На стайні ўсё было ўладу. Праварыны былі вычышчаны, дарожкі падмецены і пасыпаны пяском, збруя вісела, як належыць, днявальныя стаялі на сваіх мясцох. Гэты ўзорны парадак адмёў утрапеньне і заснаваў прытулак спакою. Бялінскі пастаяў хвіліну каля „цапуноў“, паглядзеў, як яны цопаюць абвіслымі губамі паветра над жалабамі і ўсьміхнуўся.

— От да чаго моцна трымаецца прывычка!

Гэтых коняй везьлі аднекуль вельмі здалёку, калыхаліся яны ў цягніку пэўна пяцёра сутак і ад няўстойлівасьці клёвалі галавою. І калі прывезьлі іх і павыводзілі з вагонаў—прывычку цопаць губамі яны забралі з сабою. І нічым ты цяпер іх ад гэтага не адвучыш!

Бялінскі зайшоў у праварыну, пагладзіў свайго каня і сказаў яму па прывычцы некалькі ласкавых слоў, але думаў пры гэтым пра іншае. Балючы неспакой быў пазбыты і памалу пачало вырысоўвацца яркімі контурамі выйсьце з нядаўнага ўтрапеньня. Бялінскі яшчэ раз паглядзеў на „цапуноў“ і цяпер ужо вусны ягоныя расплыліся шырокімі кругамі хвалістай, уласьцівай толькі аднаму яму, усьмешкі.

— Прывычка!

Дарогаю на рэчку ён і думаў ужо пра неразгаданую прыроду чалавека—верыць у сваю сілу. Менавіта, упэўненасьць у сіле і ёсьць квадрат сілы—формула перамогі. Задача па страляньню ўчора была новая і складаная. Байцы яе разумелі, але ня ведалі так цьвёрда, каб верыць у яе выкананьне. І нават тыя, што, здавалася, былі ўпэўнены ў сабе і выхваляліся выканаць задачу выдатна—ня верылі ў гэта: ім толькі здавалася, што вераць, бо яны разумелі задачу, але ня ведалі яе складанасьці. Тымчасам, кожная вера, што, будучы памножанаю на сілу, дае квадрат сілы—аснована толькі на фактах, на веданьні кожнай дробязі сваёй справы.

З гэтых разваг Бялінскі зрабіў парадаксальныя, але праўдзівыя высновы:

— Калі ты знойдзеш прычыну свайго паражэньня, ты становішся пераможцам.

На рэчку ён прышоў бадзёры і, як заўсёды, вясёлы, патаварыску блізкі кожнаму чырвонаармейцу.

— Разьдзеліся, товарышы?

— Разьдзеліся, таварыш камандзір.

— Станавіся!

Эскадрон пашыхаваўся ў дзьве шарэнгі. Голыя і загарэлыя ад пят да галавы, мускулістыя, як статуі, людзі нагадвалі калёну каменных самсонаў, што падтрымліваюць на сваіх плячох ленінградзкі эрмітаж.

— Ну, хто зусім ня ўмее плаваць?

— Я.

— Хто?.. Сідарэнка? Што-ж гэта ты?

— Без вады, таварыш камандзір, гадаваўся. У нас стэп навокал... Ніколі і ня купаўся.

— Лжэш, Сідарэнка! А цябе-ж маці яшчэ маленькага вывучыла плаваць у начоўках.

— Ха-ха-ха!—дружным рогатам падхапілі чырвонаармейцы жарт.

— Здорава ты яго разануў!

— Нічога, таварыш камандзір, ня здорава,—апраўдваўся Сідарэнка.—Яго бацька вучыў камароў з гарматы біць, а ён і страляць ня ўмее.

Бялінскі ўсьміхаўся шырокаю і цёплаю ўхмылкай.

Было сонечна, шумна і весела. Падняўшы над галавою зложаныя клінам рукі, людзі лёгка і спрытна адлучаліся ад вышак і, расьсякаючы густую ад сьцюдзёнасьці ваду, зьнікалі на момант, каб выплысьці наверх аж там, каля другога берагу.

Сідарэнка, як выявілася, плаваў, але слаба. Яму вельмі хацелася разам з усімі пераплыць на той бераг, ды баяўся ён адважыцца на гэткі сьмелы ўчынак. Тады Бялінскі загадаў двум лепшым плыўцом узяць Сідарэнку пад сваю апеку. Яны плылі спаважна, задаволеныя сваім шэфствам, а Сідарэнка стараўся як мага: барабаніў рукамі як толькі ільга выстранчыць, шпарчэй за ласты прапэлеру. Камандзір пільна сачыў, радасна ўсьміхаўся і трывожыўся. І от у гэты, менавіта, момант і выявіў ягоны твар усю нутраную складанасьць і багацьце гэтага чалавека. Бялінскі русага воласу, нават зусім бялявы, такіх звычайна завуць белабрысымі. І калі глянуць на лоб гэтага белабрысага чалавека, дык кідаецца ў вочы штосьці вясёлае, юнацкі задзёрыстае. Тымчасам густыя і шырокія, і таксама белыя, бровы надаюць твару выраз сталасьці, розуму, упартасьці і нейкай бацькаўскай заклапочанасьці.

Асабліва гэтыя апошнія рысы падкрэсьлівае надзвычайна цёплая ўсьмешка Бялінскага. Яна ў яго разыходзіцца ад вуснаў на шчокі шырокімі і тонкімі кругамі. Падобнымі кругамі разыходзяцца хвалі, калі шпурнуць у ціхую празрыстую ваду камень.

Такі вонкавы партрэт камандзіра трэцяга ўзводу. Пакуль аўтар імкнуўся перадаць гэты партрэт хоць-бы прыблізна, чырвонаармейцы скончылі купацца і вярталіся ў палаткі. Дарогаю гутарылі, строілі адзін з другога жарты, сьмяяліся. У гурце заўсёды весела і жарты складаюцца самі сабою.

Строгія крытыкі пачнуць мяне судзіць:

— Фантазёр, таварыш пісьменьнік!—скажуць яны,—у страі размаўляць забаронена, а вы пішаце...

Разумная людзкая дысцыпліна мае за сваю аснову ня страх, а глыбокае разуменьне сваіх абавязкаў і замілаваньне да сваёй справы, шчырасьць. А хіба можа салдат буржуазнай арміі сказаць афіцэру такое слова, каб было яно шчырае?! Вось чаму абодва яны баяцца адзін другога, і невядома яшчэ, у каторага страха большыя вочы: ці ў таго што носіць у сабе затоеную шчырасьць, ці ў таго, што як мага імкнецца задушыць яе.

Бялінскі напэўна ніколі не ўдаваўся ў такую філёзофію, але ў яго на гэта былі свае жыцьцёвыя правілы. Ён ня вывозіў з іх ніякіх тэорый, але заўсёды карыстаўся імі на практыцы. Ён умеў быць сярод сваіх байцоў і дасьціпным таварышам, з жартаў каторага клаўся ад рогату ўвесь узвод, але ён умеў вокамгненна знайсьці і сьцежку, каб накіраваць гутарку на сур'ёзныя рэйкі, калі яго слухалі з павагаю, як больш спрактыкаванага таварыша, як разумнага камандзіра.

— От мы жартуем, клопцы, а пад вечар сумаваць будзем.

Узвод адразу змаўкае і настарожваецца. Усе ведаюць, на што намякае камандзір, але Бялінскі маўчыць, а трэба, каб ён сказаў, што-ж рабіць? І тады нехта, каб выклікаць яго на гэта, быццам абыякава, пытае:

— Чаму вы так гаворыце, таварыш камандзір?

— Баюся, што мы і сёньня прамажам на страляньні?— Бялінскі глядзіць дапытліва, пранізваючы хітраватым аганьком сваіх вачэй.

— Не прамажам!

— Першае мейсца зоймем!

— Упэўнены?

— На сто процантаў, таварыш камандзір!

Бялінскаму гэтага мала. Ён вымагае, каб упэўненасьць была ўгрунтована дакладным веданьнем пастаўленай задачы.

— От што,—зьвяртаецца ён да малодшага камандзіра,— падрыхтуйце кулямёты, дзьве гунькі, рамяні... і ўсё іншае... Зразумела?

— Зразумела: загадана падрыхтаваць кулямёты, гунькі і ўсё, што трэба для страляньня.

— Ідзеце. А мы з вамі, таварышы,—абарочваецца Бялінскі да чырвонаармейцаў,—усё ж такі паўторым яшчэ нашу сёнешнюю задачу. Страляем, значыць, з ручных кулямётаў. Дыстанцыя—чатыраста мэтраў. Даецца восем баявых патронаў. Кожны страляе двума наваратамі. Першы раз баец прыстрэльваецца: выпускае два-тры патроны—кароткая чарга. Пасьля ён выпускае астатнія патроны—нармальная чарга. Зразумела?

— Зразумела.

— Каб выканаць задачу, трэба паразіць мішэнь ня менш, як дзьвюма кулямі.

— Ну, гэта ня цяжка!

— Нават зусім лёгка.

— Лёгка?—усьміхаецца Бялінскі.—Ня зусім, таварышы. Лёгка, бязумоўна, для таго, хто добра ведае гэту справу. А вось скажы, таварыш Сідарэнка, куды пойдуць кулі, калі кулямёт будзе пададзены наперад?

— Уніз, таварыш камандзір!

— Правільна.

Трэці ўзвод на заняткі зьбіраецца хутка. У яго ўсё патрэбнае нарыхтована загадзя—на гэта камандзір аддае загад яшчэ ўвечары. І пацяшаюцца хлопцы з трэцяга ўзводу, слухаючы слоўную перастрэлку ў першым узводзе.

— Архоменка, бяжы ў палатку, тай прынясі дыску.

Архоменка бяжыць у палатку і зараз-жа вяртаецца.

— Якую, таварыш камандзір, дыску?

Памочнік камандзіра ўзводу, злуецца:

— Та што ты не знаеш? Два гады служыць, тай нэ вэдае, што за дыска. Архыпенка, бяжы ты!

Бяжыць Архіпенка і праз хвіліну прыносіццъ адну дыску.

— Што-ж ты цількі адну ўзяў?

— Ты-ж так і казаў—дыску...

— Ох, нэма на вас лыха!

Памочнік камандзіра ўзводу, ідзе сам, прыносіць яшчэ адну дыску, рамень і стрэмя.

Нарэшце, усе ўзводу ў зборы. Эскадрон пашыхаваўся і рушыў на стрэльню.

Мішэні былі яшчэ заняты—страляў першы эскадрон. Чацьвертаму было загадана пачакаць. Адыйшлі ў сасновы хмызьняк, саставілі ў козлы вінтоўкі, разаслалі гунькі, узяліся за кулямёты.

— Ну, таварышы, чаму ў нас малы процант выкананьня?

— Страляць ня ўмеем,—устаўляе слова чырвонаармеец Карабіцын. Ён прастадушны, а сінія вочы глядзяць наіўна і дапытліва.

— От і няпраўда! — усьміхаецца Бялінскі.—Няўжо-ж краўцы лепш умеюць страляць? Аднак-жа яны ўчора выбілі больш за некаторых нашых байцоў.

Краўцы, кавалі і наогул чырвонаармейцы, занятыя на гаспадарчай рабоце, рэдка бываюць на занятках і таму яны лічацца горшымі стралкамі.

— Сорам! Краўцы далі носа лепшым стралком. Ай-я-яй!.. Гэта-ж павесіцца можна з сораму.

Чырвонаармейцаў бярэ за жывое.

— Таварыш камандзір! Ды я-ж гэты кулямёт на зубок ведаю, можа той кравец гэтак іголкі сваёй ня ведае. Адно вось... у мяне рукі пачынаюць дрыжаць, калі я бяруся за кулямёт... Сьпяшаюся!

— А ты не сьпяшайся, час не абмяжованы. Рабі ўсё павольна, але стала: правільна наводзь, трымай моцна рамень.

— Таварыш камандзір, а як рамень павінен быць: каб нага сагнутая крыху, ці простая?

— Нага павінна быць простая, але рамень трэба напінаць, як мага. Вось глядзі.

Бялінскі падганяе паводле свайго росту рамень лажыцца і паказвае, як трэба яго трымаць. За ім пачынаюць практыкавацца чырвонаармейцы: мацаюць замок, круцяць дыску, прабуе кожны тое, што слабей ведае. Наводдаль—вясёлая купка. Адсэкр кагадзе прачытаў надрукованую на шапірографе адозву, дзе камандзір палка зьвяртаў увагу на

ганебны процант выкананьня задач, заклікаў больш дбайна ставіцца да баявога навучаньня і пералічаў прэміі, што намечана выдаць лепшым стралком.

— Як ты думаеш, дарагі мой дружак і слабы стралок, на чые плечы апрануць сьвітар?

— На мае.

— Ну?

— От паглядзіш!

— Ну, калі табе сьвітар, дык мне гадзіньнік дастанецца,

— Кінь ты! Стралок такі!—нападае на Сідарэнку Карабіцын.—Гадзіньнік будзе мой. І падараць мне яго, мае даражэнькія хлопчыкі, такім чынам. Выстраяць гэта на пляцы ўсю дывізію. Прыедзе гэта таварыш Варашылаў, паглядзіць на нас і папытае:

„А хто ў вас, малойчыкі, найлепшы стралок?“

— „Таварыш Карабіцын!“—гаркнуць усе ў адзін голас.

— „Трэба яму,—скажа таварыш Варашылаў,—гэты гадзіньнік даць за тое, што страляе ён сапраўды па-варашылаўскі, так, як я.“

— Ну, камандзір дывізіі мяне, вядома, падтрымае:

— „Правільна,—скажа ён,—Карабіцын хлопец во! На два вялікіх пальцы“.

— От падыйдзе тады таварыш Варашылаў да мяне і скажа:

— „Падай сюды, Карабіцын, тваю мужную руку, катораю ты гэтак трапна б‘еш ворага“.

— Начэпіць ён на маю руку сярэбраны гадзіньнік і паляпае па плячы;

— „Маладзец таварыщ Карабіцын!“

— А я паляпаю яго па двух плячуках і скажу: таварыш Варашылаў, скажэце ад майго імя наркому лёгкай прамысловасьці таварышу Любімаву, каб болей будаваў ён гадзіньнікавых фабрык. Галзіньнікі патрэбны нам да зарэзу. Такіх стралкоў, што заслугоўваюць гэтай нагароды—у нашым толькі разьдзеле цэлы ўзвод. От, скажам, таварыш... Тут я, таварыш Сідарэнка, абавязкова назаву тваё прозьвішча, бо каб ня было, скажам, мяне, альбо калі мяне заб‘юць там дзе на Захадзе, дык ты ца праву зоймеш маё мейсца першага кулямётчыка.

— А ліха тваёй галаве!—рагочуць хлопцы.—От-жа фантазёр!

Бялінскі слухае гэтыя жарты, усьміхаецца ледзь прыкметна аднымі краямі губ. Кожны чалавек на натуры крыху рамантык. І няма нічога непраўдзівага і дзіўнага ў гэтай фантазіі маладога чырвонаармейца, бо ён сапраўды можа сьмела падыйсьці да Варашылава—такога-ж у мінулым рабочага, як і ён, Карабіцын.

Так думае Бялінскі. Гэтыя думкі перабівае голас:

— Чацьверты эскадрон, на стрэльню!

Першымі лажацца каля кулямёта помэскадрону па палітчасьці і Бялінскі. Гарністыя іграюць „зважай“. Пачынаюць дрыжаць рукі, узмоцнена б'ецца сэрца. Бялінскі сутаргава намацвае рамень, надзяе на ступню стрэмя, спрабуе выпрастаць нагу, але рамень—коратак. Бялінскі хапатліва падганяе яго паводле сваёй меры, выцягваецца на ўвесь рост, напружваецца і... замірае. І от, сэрца пачынае біцца роўна, зьнікае ўзрушанасьць, адыходзіць у цёмныя глыбіні ўвесь сьвет, застаецца перад зрокам адна толькі далёкая невялічкая чорная кропка. Бялінскі ловіць яе правым вокам, імкнецца пасадзіць якраз на востры кант мушкі і, прыпыніўшы дыханьне, націскае на цынгаль. Усё гэта робіцца неяк падсьвядома, бяз удзелу думкі, як можа яна і бывае, але надзвычай кароткая, бо ў памяці не застаецца ад яе ніякага сьледу. І толькі калі абрушваецца стрэл, уздрыгвае кулямёт—налятае думка: спыніць аўтамат, каб ня выпусьціць усіх куль зараз.

Памочнік камандзіра эскадрону па палітчасьці здымае дыску і зазначае:

— Тры патроны выпусьціў... Давай месца.

Яны мяняюцца месцамі: гэты лажыцца першым нумарам, Бялінскі—другім.

— Як ты думаеш,—пытае асьцярожна Бялінскі—папаў, ці не?

— Папаў, здаецца,—адказвае абыякава помэскадрону па палітчасьці, заняты сваімі клопатамі.

Бялінскі таксама ў глыбіні істоты верыць, што папаў, ён нават уяўляе сабе гэтыя маленькія тры дзірачкі ў асяродку мішэні, але адначасова імкнецца пераканаць сябе, што кулі пашлі „па малако“, каб пасьля перамога была больш нечаканаю і радасьць—вялікшаю. Адначасова гэтым ён імкнецца застрахаваць сябе: лепш ня верыць, як пасьля

расчароўвацца. Так робіць чалавек, калі гадае пра свой лёс, калі ня ведае яго, ня ўпэўнены ў ягонай добразычлівасьці. Але-ж цяжка пераканапь сябе розумам, калі пачуцьці супраць! Бялінскі ловіць сябе на гэтай гульні пачуцьця і развагі і стараецца як мага далей адшвырнуць абрыдлую зьняверу.

Другую, так званую, нармальную чаргу Бялінскі выконвае спакойна і разважліва. Ён амаль адрозьнівае кожны стрэл і, здаецца, адчувае палёт кожнай кулі. Але-ж чалавечая хада надзвычайна марудная! Пакуль людзі ідуць да мішэняў, каб праверыць і адзначыць на іх невялічкія круглыя прабоіны, думкі пасьпяваюць некалькі разоў дамчацца туды і вярнуцца назад, прыносячы то радаснае заспакаеньне, то пякучую і трывожную няпэўнасьць. Бялінскаму здаецца, што каля ягоных мішэняў людзі прыгінаюцца залішне доўга і залішне старанна штосьці разглядаюць.

— Шукаюць... Мусіць не папаў,—працінае вострая думка. І от, перад ім паўстаюць пакеплівыя твары таварышоў і добрыя, прыціхлыя вочы чырвонаармейцаў. Яны пазіраюць зьдзіўлена і спачувальна.

— І што яны там поркаюцца?—злуецца Бялінскі на тых, што гэтак доўга тупаюць там каля ягонай мішэні.—Калі не папаў, дык няма чаго і мацаць.. Пальцам дошкі не праб'еш.

Словы ацяжэлі чужою робленаю злосьцю. Гэта—знарок, каб атушыць, не паказаць свайго сораму і трывогі... Не за сябе трывога, а за тых, што будуць страляць пасьля яго, за свой узвод. Бялінскі адчувае, што ягоная воля трымаецца на валаску, і каля абарвецца—будзе чарнець бяздоньнем правал, бо ня хопіць сілы перадаць людзям свайго ўзводу патрэбнай упэўненасьці і веры. Гэта—адно з правіл Бялінскага: камандзір павінен быць лепшым стралком, у гэтым парука перамогі.

Нарэшце постаці агледзелі апошнюю мішэнь і падаліся ў бліндаж. Тэлефоністы прыціснуў да вуха трубку:

— Шостая мішэнь... тры! Сёмая мішэнь... два! Шостая мішэнь... нуль!—перадаваў ён пявучым голасам, прынесеныя па тэлефону весткі. Бялінскі ўпіўся вачыма ў асмаглыя вусны тэлефаністага і лавіў, яшчэ задаўга перад вымаўленьнем, кожнае ягонае слова. А голас гучаў усё, строгі, як вырак:

— Чацьвертая мішэнь... нуль! Трэцяя мішэнь... пяць, Другая мішэнь... чатыры! Першая?., тры!

Бялінскі сарваўся, як вецер, піхнуў некага ў грудзі і памчаўся да свайго ўзводу!

— Ну?!! Колькі?—дапытліва падаліся яны насустрач.

Камандзір задумаўся. Міналі сэкунды.

— Колькі-ж?—ня выцярпеў нехта.

— Забыўся!

Чырвонаармейцы парвалі напружнае маўчаньне дружным рогатам:

— Ха-ха-ха!

— От дык здарэньне!

— Я гляджу, чаго гэта наш камандзір так імчыцца, каб ня згубіў, турбуюся, чаго,—прабаваў падпусьціць нехта жарт.

— Гэта з радасьці!—апраўдваў другі.

— Праўда, з радасьці, хлопцы... Ведаю, што перамог, а колькі—няўцяміў, не засталося ў памяці. Я зараз дазнаюся.— І ён роўным шырокім крокам падаўся да камандзіра эскадрону.

Бялінскі страляў на першай і па другой мішэні. За кароткую чаргу выбіў тры, а за нармальную—чатыры. Разам было сем. Гэта давала права на паметку „выдатна“. І от, гэтыя словы, сказаныя камандзірам эскадрону абыякава, у сьвядомасьці Бялінскага напоўніліся адмысловым зьместам асьвятліліся яркім адценьнем радасьці. Цяпер ужо была непахісная вера ў перамогу і, нарадзіўшыся ад яе, расла непакорная воля.

— Першая чарга—Карабіцын і Сідарэнка, да кулямётаў! Падрыхтавацца наступным. Набіць дыскі!—аддаваў Бялінскі загады, пявуча расьцягваючы кожнае апошняе слова. Тут была ня толькі прывычка; у гэтым выбівалася наповерх шырыня чалавечай радасьці, акругляючы словы гучнаю напеўнасьцю.

Чырвонаармейцы падыходзілі да кулямётаў упэўнена і спакойна. Але як толькі гарністыя ігралі „пападзі“, як толькі рука дакраналася да халоднага цела кулямёта—электрычным токам прабегала па нэрвах дрыготка, ногі блыталіся ў рамянёх, рукі рабіліся непаслухмянымі, пальцы зьбянтэжана шарылі па паліраваных частках кулямёту, не зна-

ходзячы патрэбнай на гэтую хвіліну. Тады Бялінскі нахіляўся над байцом і з шырокаю цёплаю і дабрадушна-пакеплівай усьмешкаю навучаў:

— Спакайней, спакайней!.. Покуль што не на вайне-ж. Выпрастай ногі, як мае быць! Не сьпяшай. Часу, каб заняць першае мейсца, у нас хапае, а куль—усяго восем, ня выпушчай іх на вецер.

Бялінскі цярпліва папраўляў кожнага байца, кожны яго-ны няправільны рух, і гэтая дабрадушная цярплівасьць прыносіла чалавеку спакой і ўпэўненасьць. Узвод заняў першае мейсца, даўшы сто процантаў выкананьня бяз тых, што стралялі выдатна. І от, калі мінула ўся гэта напружанасьць—абмякла ўшчэнт цела. Толькі цяпер Бялінскі адчуў, якім нечалавечым напружаньнем волі здабыта была тая ўпэўненасьць і сіла, якая прынесла перамогу.

Камандзір эскадрону паклікаў Бялінскага да сябе.

— Ну, хлопцы, валяйце. Як прыдзеце, адразу-ж на прыборку, каб да полудню пасьпець. Таварыш Карпушэнка, вядзеце ўзвод!

Чырвонаармейцы былі вясёлыя і шумлівыя. Нехта жартаваў над Карабіцыным:

— Я гляджу, куды гэта ён б'е, што руля нешта глядзіць на неба. Аж ён у бога.

Камандзір аддзелу спыніў:

— Ну, досыць, хлопцы! Давайце лепш песьню.

Узвод, згайдануўся і рушыў. Нехта пачаў песьню, яе падхапілі высокімі галасамі:

на-са-ве-е-е-цкі-я-я гра-ні-і-і-цы
гэ-э-э-ні-ра-а-а-л і-і-‑і-дзёт.

Бялінскі пастаяў некалькі хвілін, агорнуты цяжарам стомы, пасьля раптам схамянуўся, як-бы страсаючы яе з сябе і, напяваючы ў лад з чырвонаармейцамі, што міналі ўжо ўзгорак—падаўся на стрэльню.





ВАСІЛЬ КАВАЛЬ

# ДЗЕНЬ ПАЛЫМНЕЕ

(ПРАЦЯГ)

УСТАВАЙ, ужо!—радасна крыкнуў нехта з прасонку з нараў.—Хлопцы, падымайся, дзень ужо!

Чалавек штурхаў нагою, тузаў у сьпіну і падымаў немаверны вэрхал.

— Ты што, ашалеў?—чуўся нездаволены голас,—я толькі што сагрэўся і задрамаў, а ён—спаць не дае.

— Перастань, зануда!

— Падымайся, кажу, зараз прыедзем,—крычаў радасна і неўгамонна чалавек.

— Ну, і што з гэтага? Прыедзем—і прыедзем—падумаеш важнасьць...

— Маўчы!

— Зараз ты, Цыганок!

— Ну, і людзі, чорт вас пабяры! Разаспаліся, хоць ты канём іх цягні.

— Перастань!

— Чуеш паравоз сьвішча—гу-гу-гу-у!—Цыганок ад вясёласьці закрычаў паравозам.

— Сволач,—нехта ядрона вылаяўся на Грышку Цыганка.

І раптам у адчыненыя дзьверы цяплушкі, як з прывязі сарваўшыся, шугануў нахабна вецер, выпушчаны з волі неўгамонным Цыганком, і ў дзікай мятусьні разарваў апошнія ўздыхі сну,—у ім былі мары і гарызонты маладога дню.

Шумам, крыкам, лаянкай віталі людзі новы дзень, які нёс ім будучыню. Расплыўся на зямлі прадранічны змрок і вырас на дзіва такі цьменны асеньні дзень з золкімі парывамі ветру.

Поўз цягнік, а вецер шалясьцеў у абстрэслых жоўтых садох, на паўстанках у палісаднях ірдзелі сакавітыя з кроплямі дажджу рабіны, а ў вышыні, перасякаючы дарогу над цягнікам, праплывалі гусі.

Распалілі цагляную грубку і цесным кругам абступілі. Лятуценна гледзячы на агонь, белабрысы і лапавухі Грышка Цыганок сказаў:

— Вось, мы, значыцца, прыедзем у горад. У горадзе нас сустракае музыка. Абавязкова, хлопцы, аркэстрам... Здаровы былі!—скажуць нам,—здарова!—скажам.

Ён жвавы, як ваверка, размахвае рукамі і малюе бліскучую ідылію спатканьня на станцыі.

За кожным, трапна выказаным, словам падымаецца шчыры дружны рогат.

— А можа будзе так, гаворыць камвыкаваты Галында,— прыгоняць цябе, запруць у казарму і ня выпусьцяць два гады.

— Хлусі, хлусі, будзем слухаць...

— Ня хлушу, а праўду чуў ад людзей. Мой сусед расказваў...

— Будуць біць, драць, плакаць не даваць,—перадражнівае Цыганок.

— А ты, як думаў?—гугнявым і павольным голасам кажа Галында—спачатку цябе ў карантыну пасадзяць...—

— А што такое карантына?

— А гэта, што турма ўсё роўна,—упэўнена адказаў Галында і цыркнуў у агонь.

— Эх ты!.. Дурань!— Умешваецца задуменны і запальны як іскра Федзька Брагінскі:—наслухаўся ты недзе бабскіх плётак і вярзеш, што ў галаву ўлезе.

Некаторыя падтрымліваюць Галынду:

— Нагаварылі вам—добра, добра, дык яны і вушы разьвесілі.

Тут ужо ўмешваецца цэлы натоўп і наперабой пачынаюць крычаць:

— Лухту вярзеш, Галында!

— Старыя бабы нагаварылі табе, а ты паверыў!

— А по мойму дык тут проста кулацкія гутаркі.

— А ты чуў, Галында, што на зборным пункце камандзір расказваў?!

— Ну? Чуў... Ну?

Галында адварачваецца.

— Ня верыш?

— Можа веру, можа—не. Справа мая. Ведаю адно: салодка ня будзе.

— Цябе-б зусім ня пусьціць у армію.

— А мне яшчэ лепш...

— Сволач ты ўсё-ж такі!..

Наступае хвіліна няёмкага маўчаньня. Галында вымае махорку і акуратненька скручвае цыгарку.

— Абчхі!—кашляе Грышка Цыганок і падстаўляе кавалачак газэтнае паперы.—А ну, сыпані, братышка, на цыгарку.

Галында ўзводзіць на яго цяжкі з пад лоб'я позірк смачна зацягнуўшыся, пытае:

— Ты—курэц?

— Ну, далей валяй!—

— Ну і куры сваю.

— Шкода махры на цыгарку?

— Ня шкода, але май сваю!..

— Эх, ты,—ціха крыўдзіцца Цыганок,—і ёлап-жа ты хвашчаўскі! У якім ты толькі балоце вырас?

— Яго і армія не навучыць,—чуецца з розных канцоў.

Галында мацюгнуўся і адышоў у бок.

І ў гэты час некалькі рук з махоркаю пацягнуліся да Цыганка.

— Закуры ў мяне, браток!

— Я, брат, не шкадую, каб было чаго, а махоркі шкадаваць... У армію едзем, а не куды небудзь.

— Папрабуй маёй!

— А ў мяне, здаецца, лепшая.

Цыганок нават зьбянтэжыўся і ня ведаў, якую браць.

— Во гэта я разумею,—пахваліў ён хлопцаў—з такімі не прападзеш.—Ха-ха-ха!

— Эх, дай засмалю ў цябе Чарнуха.

— Бяры, брат, я не шкадую.

— Дзякую. А скажы, адкуль ты, Чарнуха?

— Я з пад Магілёву, з калгасу „Вясна".

— То-ж бо я і бачу. Калектыўскі хлапец. Значыць, будзем разам служыць,—закурыўшы хлопае Цыганок па плячы Максіма.

Канечне, будзем,—усьміхаецца Максім.

Паміж імі завязваецца сяброўская гутарка. Да іх прысаджваецца Федзька Брагінскі. Максім расказвае як яго праводзілі ў армію.

Адчуваючы павагу да Брагінскага, Максім пытае:

— Скажы, у арміі можна навучыцца трактарыстам?

— Можна, а табе навошта?

— Я вот хачу навучыцца... У нас людзей у калгасе мала... Скора трактар купяць. Падвучуся там—гэта будзе добра...

Брагінскі паўторвае:

— Так, гэта будзе добра...

З крыкаў і размоў усе нечакана перашлі на песьню. Дружна і галасіста сьпявалі „Вінтовачку", вывучаную на зборным пункце, ад камандзіра аддзяленьня, за што той карыстаўся надзвычайнай пашанаю.

„Ты, вінтоўка, друг мой верны,
З табою, слу-ужым мно-ога лет!"

Песьня, мабілізаваная з прастораў, разрывала на шматкі паветра. Хлопцы захапляліся песьняю і забывалі ўжо, што яны толькі простыя хлопцы з заводаў, калгасаў і сёл, што яны яшчэ не служылі, што „вінтовачка" ня была іхнім другам.

Нязьменны гармонік гучнымі ладамі пераплятаўся з песьняю. Праяжджаючы каля паўстанкаў, дапрызыўнікі махалі людзям шапкамі і тыя ў адказ ласкаваківалі галовамі, а дзяўчаты саромліва ўсьміхалі на жарты.

...І ў бой крывавы пойдзем сьмела,
і будзем біцца за савет!...

— На вайну!—радасна падхоплівалі прыпеў...

Насустрэч сінелі лясы...

За празрыстымі і вільготнымі туманамі сінелі лясы, ляжалі ў восенскай спустошанасьці ўбогія палявыя роўнядзі, старанна і скупа парэзаныя людзьмі на палоскі. А ў шыр палёў, у шматстагоднюю цішыню палёў урываліся нячутыя вякамі гулы машын і ня было ўжо цішыні...

Адчувалася веяньне таго гораду, куды павінны былі прыехаць.

Усе насьцярожыліся ў бязмоўным чаканьні.

Але і тут ня ўтрымаўся белабрысы Цыганок.

— Ну, забірай лахі пад пахі,—ён абхапіў свой фарбаваны сундучок, і раптам крыкнуў на ўсё горла:

— Станцыя Білізай, каму трэба—зьлязай!..

Грышка Цыганок павінен быў расчаравацца. На просьценькай станцыі было бязьлюдна, ня было ні сьцягаў, ні музыкі. Толькі стаялі дзьве пары чырвонаармейскіх фурманак. Аднекуль зьявіўся даўгавязы, крыклівы старшыня і загадаў скласьці рэчы на фурманкі.

Зноў стаялі ў чарзе перад фурманкамі,—і Максім з торбаю і Грышка Цыганок з малінавым сундучком, і Галында,

насупіўшыся пад цяжарам вялізарнага сундука, у якім-бы мог зьмясьціцца цэлы пасаг, у якім было назапасена чуць не на цэлы ґод розных сялянскіх прысмакаў.

Старшыня выстраіў па чатыры і павёў гэты рознашорсты натоўп, які ня прыняў яшчэ вайсковага выгляду, у горад. Самы звычайны раённы горад быў далёкі ад станцыі,— вуліцы былі крывыя, большасьць домікаў дзеравянныя, але і гэта быў горад, які акрыляў пачуцьці... Прайшлі праз рынак, дзе стаяў самы бязладны тлум, завярнулі шырокай забрукаванай вуліцай, спыніліся каля вялізарнага чырвонага будынку—дому абароны.

Пасьля мэдычнага агляду мыліся ў лазьні. Старанна запакавалі ў мяшкі ўсе свае штацкія рэчы. Сьпяшаліся мыцца, стаяў гоман і шум, колькі не супакойвалі...

— Эх, вы неарганізаваная маса,—крычаў потны аддзельком,—па чарзе, па чарзе падыходзьце! Куды прэш, [неарганізаваная маса.

Голыя, з расчырванелымі распаранымі целамі, „неарганізаваная маса" сьпяшалася атрымаць абмундыраваньне, насядалі на плечы, зьбівалі з ног.

— Пасьпяшай-а!

— Хутчэй апранайся, тавары-шы-ы!

Нехта незадаволены.

— Чорт вазьмі, не даюць як сьлед апрануцца.

— У-ух!

Максім чым больш сьпяшаецца, тым у яго горш выходзіць: ах нязграбныя потныя ногі, яны ніяк ня лезуць у новыя боты, раскручваюцца парцянкі.

— Ах, каб вы згарэлі!—кажа Максім, маючы на ўвазе свае ногі.

— А рукі? Якія няспрытныя рукі! Гузікі ў новай гімнасьцёрцы не зашпільваюцца. Пот есьць вочы і буйнымі каплямі капае на гімнасьцёрку.

Максім глыбока ўздыхнуў і падаўся ў натоўп. Там каля вялікае, спатнелае люстры з настарожасьцю, са зьдзіўленьнем разглядаў самаго сябе.

— Гэта я, ці ня я?—Цыганок стукнуў, што ўсе. хто нават блізка ня быў, дружна і згодна расьсьмяяліся.

Цыганок павярнуўся некалькі разоў перад люстрам, і, нарэшце, зрабіўшы сур'ёзную міну, застаўся ўсё-такі неза-

даволены сабою. Усё было на месцы, і шынэль прылягала, як сьлед, і выгляд быў бравы, вось толькі вушы гэтыя чырвоныя, лапавухія, яны ўпарта, як на зло тырчэлі з пад новенькага шлему, іх зусім ня можна было схаваць.

Кожны не пазнаў самаго сябе, сваіх таварышоў, шынэль пературыла раптам чалавека ў нейкага новага і маларнаёмага.

— Ты чаго ўсьміхаешся—га? Рад?

— Чаму-ж-не? Што ты думаеш, жартачкі—ого! Я-ж цяпер сапраўды чырвонаармеец.

— Правільна!

— А ну, пусьці мяне. Цікава—як я цяпер выглядаю.

— Дзіва, быццам у другі раз на сьвет нарадзіўся...

І чалавеку, апранутаму ў шынэлю, толькі што ў другі раз народжанаму на гэты цікавы сьвет, паважна ўступалі дарогу да люстры.

— Прайдзі, брацішка!

А Цыганок ўсё насіўся са сваім шлемам.

— Хто са мною, хлопцы, зьмяняецца на шлемы?

Шлемы прымервалі, абменьвалі. Цыганок вымяняў сабе вялікі шлем, улез у яго вушамі і тады застаўся зусім задаволены.

— За адзін той шлем, за мой гэройскі выгляд адразу закахаліся-б дзяўчаты. Вось толькі шкода, што не спазнаюць яны мяне.

— Ну і выгляд!

— Ну й ге-рой!

— Як пудзіла ў агародзе, а ён яшчэ хва-а-ліцца... ха-ха-ха!

І калі ўжо ля люстра стала вольна, спакойна падышоў Максім Чарнуха. Ён нават спалохаўся трошкі, калі ўбачыў у люстры свае шырокія плечы і потны скуласты твар. Нават у вачох зьявілася нейкая засмучанасьць. Ён зьняў шлем і зьдзіўлена пагладзіў мокрую стрыжаную галаву. Да гэтага часу ён ня мог уявіць сябе бяз шапкі з аблупленым казырком і залатанай шэрай сьвіткаю, гледзячы на якую ўспаміналіся аржаныя цьвітучыя палі, начлегі ў лесе, узвораны папар.

Зараз шлем, на які ярка гарэла пяцікутная зорка, налажыў на яго нейкія вялікія, адказныя абавязкі, пра якія ён мала ведаў...

З лазьні ішлі ў страю, напруджваліся, стараліся падымаць галовы вышэй, але ўсё роўна наступалі адзін аднаму на ногі, расьцягваліся і потым даганялі. Ногі з няпрывычкі муліліся, туга падцягнутыя рамні сьціскалі. І гэтыя два кілёмэтры ад лазьні да казармаў здаліся доўгімі і нязвычайнымі... Бо несьлі на плячох апроч гэтых новенькіх шынэлей, якія здаваліся цяжкімі, цяжар няўгамоннага сардэчнага клопату.

— Раз—два! Левай! Левай! Надбаў шагу!—камандуе старшыня і злуецца, што нехта размаўляе ў страю...

Ужо відаць жоўты ад восенскага кляновага і бярозавага лісьця курган. Аголеныя і каравыя дрэвы шумяць. На дрэвах сакочуць белабокія сарокі. Баламутны вецер разносіць нежныя птушынныя пёркі, яны напамінаюць тонкую павуціну на звонка галосым іржэўніку ў пару бабінага лета...

І вось ужо ўступілі ў крэпасьць і прайшлі праз арку, апавітую пажаўцелай хвояй з подпісам:

| Чырвонаармейскія вароты |
|---|

Гэта быў вайсковы гарадок з простымі забрукаванымі вуліцамі, трохпавярховымі каменнымі казармамі, канюшнямі, майстэрнямі, гаражамі і пасярэдзіне пляцам для вайсковых заняткаў. Цёмна-чырвоныя фарбы і нязвыклая суровасьць і прастата будынкаў напаміналі пра нязьведамасьць гэтага жыцьця, пра мужнасьць і дысцыпліну.

І ўсё было проста...

Дзесятак артылерыстаў старанна чысьцілі гарматы каля артылярыйскага парку. Не падалёк даглядалі коняй і напявалі. Рота займалася страявымі заняткамі. Аддзяленьне кавалерыстаў брала бар'ер—і з такой заліхвацкай шпаркасьцю нясьліся, што думалася: вось, вось нехта зваліцца і разаб'ецца ўшчэнт.

Спакойна пасьвістваючы, паілі чырвонаармейцы ў доўгіх карытах сытых коняй і адзін з іх, весела пасьвістваючы, сказаў:

— Маладыя прышлі! Восьмы гадок!..

Другі, каржакаваты і каротканогі, трымаючы каня за повад, павярнуў галаву і сказаў таварышу:

— Значыць, даеш нам зьмену!.. Мы ідзём на зьмену старшым!—пераклаў ён свае думкі ў песьню.

Побач са спакойнымі тапалямі, грозна нашчэрыўшыся, стаялі ў стройным парадку і дагледжанасьці гарматы розных калібраў.

І ў другі раз занялаў духам Цыганок. Кругом была самая будняя цяжкая работа.

З дзьвярэй казармы вышаў стройны, высокі, ужо не малады камандзір з трыма „шпаламі“. На грудзёх яго зьзяў ордэн Чырвонага сьцягу.

Старшыня застанавіў і скамандаваў—„Зважай“! Камандзір палка размашыста ўзяў пад галаўны ўбор правай рукой і чотка прамоўвіў:

— Добры дзень, таварышы.

Усе крыкнулі на прывітаньне голасна, але бязладна...

І наступіла гучная цішыня: тыя сталі часаць патыліцы, тыя адкашліваюцца, тыя таптацца на месцы.

Камандзір палка ласкава ўсьміхнуўся. Дапытная насьмешлівая цень прамільганула на худаватым, да сіняватасьці выгаленым твары. Яна спынілася ў прыжмурых вострых шэрых вачох. У ёй было многа ласкі; і ніхто ня ведаў, які гэта грозны і суровы ў адносінах да дысцыпліны камандзір.

Ён размашыста, нахіліўшы галаву і паглядаючы, прайшоў паўз шарэнгу. Шырока размахіваў на хаду аднэй правай рукою. Потым павярнуўся і падняў руку на ўзровень са шлемам.

— Таварышы маладыя чырвонаармейцы!—сказаў ён высокім да сіпаты голасам. — Вы прышлі ў N-ны стралковы ўдарны полк. Так... ударны полк... Наш полк ужо на працягу трох год трымае пяршынства ў дывізіі па ўсіх галінах баявой вывучкі.

Над тонкай пераносіцай у камандзіра вырасьлі маршчынкі. Ён гаварыў расьцяжна і глыбокадумна.

— Полк і ў мінулым мае слаўную гісторыю барацьбы з белапалякамі, Калчаком, Юдзенічам, на розных франтох.

Камандзіру палка было ня больш 40 год. Маршчыны не азначалі яшчэ старасьці. Ён з гордасьцю і любоўю ўспамінаў.

— І калі сусьветныя бандыты, якія шалёна рыхтуюць вайну супроць нас, захочуць патапіць у моры рабочае крыві шостую частку зямлі, дзе будуецца сацыялізм... мы па першаму закліку рабочае клясы пойдзем... у апошні, рашучы бой...

Кампалка паказаў на захад.

Там, падобна беларужовай пене, плавалі воблакі. Там у белым тумане стаяў паўкруг сонца за дрэвамі кургана.

Цішыня перад заходам сонца была настарожаная і здрадлівая.

...І ў сітачным надхмар'і, прапэлеры эскадрыліі самалётаў, змагаючыся з хмарамі, рассыпалі дроб, падобную на цоканьне падкоў коньніцы, што яшчэ недзе далёка, там за гарызонтам, за гарою, агаленымі клінкамі імчацца на ўсьпененых канях у апошні і рашучы бой.

Кампалка захапляўся. Чым далей, тым усё больш шырокімі рабіліся яго крокі—ён хадзіў паўз шарэнгі і размахіваў правай рукою.

— А для таго, каб перамагчы ворага, вы павінны быць добрымі чырвонаармейцамі, добра асвоіць тэхніку.

Ён расказваў аб вялікім званьні чырвонаармейца. Яны павінны насіць гэта званьне з гонарам, чэсна і непарушна, бо яны дзеці рабочых і сялян, якія змагаліся за Рэспубліку Саветаў.

Кампалка спыніўся. Ён скончыў сваю прамову. Маршчынкі ў яго зьніклі.

— І так... сказаў ён і падняў руку на ўзровень са шлемам.

Ён ужо дабрадушна і гасьцінна ўсьміхаўся.

— Яшчэ раз вітаю вас з прыходам у шэрагі Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі. Ура!

Усе крычалі „ура". Крычалі тры разы, дружна, з захапленьнем і раскаціста пранеслася рэхам за гарою.

Кампалка загадаў адвесьці ў памяшканьне. Упяршыню ўваходзілі ў дзьверы казармы з хваляваньнем...

Быў лістапад на дварэ, ветраны дзень, шумелі тапалі. Вечарэла.

(*Далей будзе*).

СЬЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСК

# ЛІСТ З ВАРНЫ

Знаем,
у іхнім тыле,
не на спакой ды на мір,
строй камсамольскіх флётылій
зложвае дынаміт.

ЗАХАДАМ сонца—мора, як разьлітае жывое срэбра—густа-шэрае і цяжкое. Сонца заходзіць спакойна. Рассыпае свае водблескі па востра-прасоленай вадзе. Паступова хаваецца за вуаль хмар. Коціцца туды, дзе таксама востра-прасоленыя воды марэй, шумлівыя парты з бесьперапынным мэталёвым лязганьнем, гучнаю гамонкай і сыгналамі караблёў пра адыход.

Сонца паступова коціцца туды, дзе таксама да рэйдаў папрыставалі караблі ў нэрвовым чаканьні новых паходаў. Туды, дзе таксама праносяць сваё суровае марское жыцьцё абветраныя і загарэлыя маракі. Але—караблі і маракі варожых нам армій. Армій імпэрыялізму.

Іх муштруюць. Іх трэніруюць. Іх выводзяць да новых войн — ім незразумелых, чужых, яшчэ не асэнсаваных. Яны тыя-ж рабочыя хлопцы—з заводаў мэталюргіі, саляных копяў, судовых вэрфяў, сялянскіх ніў.

Іх узялі. Ім загадалі штосьці абараняць. Бацькаўшчыну? Веру? Туга набітыя кішэні „лепшых сыноў айчыны"?

Дачасу яны ідуць. Яны абараняюць. Іх дачаснае веравызнаньне—паслухмянасьць. Іх вывозяць у мора. Прывучаюць да мардабойнага распарадку карабля і вучаць страляць.

Вечарамі яны доўга ўглядаюцца ў далячыню сіняга мора. З неспакойнымі думамі праводзяць далёкія мачты караблёў. Перабіраючы запыленыя зьвязкі хатніх лістоў, сумуюць пра свае галодныя сем'і, абрабаваную радзіму. У кубрыках нястройным хорам напяваюць цягуча-нудныя песьні, асноўнаю гамай якіх—туга і роспач.

І прыходзіць самае трагічнае. Нараджаецца разгульны матроскі танец, каб забыцца на ўсё—на сваю сабачую службу, на сваё гора, на ўвесь сьвет. Пад прыстукваньнем

зьбітых абсацаў дашчатая палуба аддае глухім гулам. Прыходзіць п'яны экстаз і цемрадзь сутарэньня з партовымі дзяўчынкамі. Чорнаю густою навальніцаю насоўваецца бяспамяцтва і забыцьцё.

Чалавек павінен прачнуцца. Ён раскрывае павекі. Кладзе сваю млявую руку сабе на халодны лоб. Тупы боль ломіць абмужалае цела. Чалавек востра адчувае чад мінулых начэй. Ён глядзіць на рэальнасьць, як нованароджаны. Абмацвае кожную рэч, якая паўстае перад яго вачыма.

Цьвярозасьць адкрывае шмат чаго новага. Новае—гэта тая-ж рэальнасьць без акрас.

Яны зьбіраюцца невялічкімі купкамі. Нясьмелы шэпт ім сродкам сувязі. Саймуюць у наглуха-зачыненых шматпудовымі сталёвымі дзьвярмі кубрыках, у галюнах. Яны пачынаюць гаварыць пра тое, пра што нельга гаварыць. Чытаюць тое, чаго нельга чытаць. Накіпэлае, адчутае, прапачуцьцёўленае сігае праз мяжу забароны.

Маладою, але трывалаю, руньню ўзыходзіць ідэя нездавальненьня. Расьце, шырыцца. Пераростае ў буру нутраного, яшчэ затоенага пратэсту.

Яны, людзі марэй, страчаюць людзей сухазем'я, што маюць толькі свае рабочыя рукі і больш нічога. Аношнія ў гэтае лета перасталі быць сынамі сваёй бацькаўшчыны. Рукі іх нікому зараз не спатрэбіліся. Яны разам шукаюць сваю сапраўдную бацькаўшчыну. Шукаюць і знаходзяць. Знаходзяць яе праз туман маны і уласных блуканьняў.

Тое-ж чорнае мора абывае берагі новазнойдзенае бацькаўшчыны. Такія-ж цяжкія і напорыстыя хвалі выносяць на сваіх сьпінах караблі савецкіх эскадр. Тыя-ж воды прымаюць і выгартоўваюць цела чырвонага марака. Такія-ж самыя штормы ўзносяцца ў вышыню над паверхняю мора. Толькі сьвет там другі, і людзі другія, і сонца і мора становяцца іншымі.

І яны пішуць. Пішуць на адрас камсамольскага калектыву лінкора „Парыская камуна". Пішуць праз галовы свайго камандаваньня і ўраду маракі з Варны—важнага баўгарскага чорнаморскага порту. Вуснамі камітэту варнаўскае камсамольскае арганізацыі перадаюць прывітаньне ўсяму ЎсеЛКСМ, усёй камсамольскай і чырвонафлёцкай моладзі. Сваім братом па клясе, па крыві. Пішуць, хоць

і зацягваецца над іхнімі галовамі намасьленая пятля разьюшанага белага тэрару. Паведамляюць—у Варне сярод баўгарскіх маракоў афармляецца і крэпне арганізацыя камуністычнага Саюзу моладзі.

Гісторыя паўтараецца...

Шэсьць браняносцаў, два крэйсэры, адзіннацаць міна-носцаў—францускіх, агнельскіх, грэцкіх, італьянскіх—плюс францускае генэральнае судно „ахоўваюць парадак" у Крыме. Яны наперад падзялілі трафэі свайго паходу. Іх місія гістарычнага значэньня. Іх місія—расстрэльваць крымскіх пралетараў. І яны яе з гонарам выконваюць.

Дзевятнаццаты год. Год інтэрвэнцыі Крыма саюзьнікамі. Год, на абломках якога ўзвышаецца сьветлы, як сонца ўсход, прывід францускага браняносца „Мірабо".

Гэта быў час, калі—

Сьнежная бура ўсьпеньвае Севастопальскія бухты. Суднам, што стаяць у бухтах, пагражае небясьпека. Яны могуць сарвацца з прычалаў і разьбіцца. Браняносцу „Мірабо", каб пазбыцца небясьпекі, загадана выйсьці ў мора. Карабель вядзе сам камандзір бяз лоцмана, ня ведаючы морскага дна. „Мірабо" садзіцца на мель. Яго трэба ратаваць. Ратаваць, разгрузіўшы з яго частку броні, вежы і гарматы. Патрэбны докавыя спэцыялісты. Збальшавізаваны саюз мэталістаў адбірае семдзесят лепшых выпрабаваных рабочых. Гэтыя семдзесят—ня толькі лепшыя токары і кацельшчыкі, яны, адначасна лепшыя прапагандысты і канспіратары. Семдзесят рабочых, набіўшы кішэні лістоўкамі, рэгулярна праходзяць на браняносец. Семдзесят рабочых знаходзяць агульную гутарку з матросамі францускага браняносца. Францускія матросы чытаюць і самі пачынаюць распаўсюджваць праклямацыі севастопальскага і адэскага рэўкомаў...

Гэта быў час калі—

...Сярод каманд браняносца „Мірабо", лінкораў „Жюстик", „Жан-Барт", „Франс" і цэлага шэрагу іншых скалочваліся групы францускіх бальшавікоў...

...Матросы з прагнасьцю даведваліся пра гераічныя паводзіны сваіх сяброў з крэйсэра „Вальдэк-Русо", на якім была створана рэвалюцыйная арганізацыя „Лукул", брацкі саюз працоўных мора"...

Калі-ж бывае вольны дзень,
Дзе там спачын такой натуры!
Хлапцоў на стрэльбішча вядзе,—
Першы стралок і фізкультурнік.

Нястрымны баявы настрой.
У час вучобы захапляе,
І повен помсты наш герой,
Нібы ў ворага страляе.

Ён толькі марыў аб адным,
Ці спаць лажыцца, ці прасьнецца:
Як прыдуць прызыву гады—
Быць баявым чырвонаармейцам.

О, палкасьць летаў маладых!
Сягоньня Аляксей шчасьлівы.
Ў чырвонай арміі рады
Дзень надышоў яго прызыву.

Няма ні жалю і ні сьлёз,
Радасьць чаканая ў хаце,
На твары грае весялосьць
Нават яго старэнькай маці.

Хвілінка суму. Ўсё-ж такі
Сэрца знайшло сабе прычыну,
Як разьвітаўся ўтайкі
З даўно каханаю дзяўчынай.

— Усе бывайце. Мне пара
Свайго жыцьця жаданьні зьдзейсьніць.
Бадзёрым выехаў з двара
З любімаю сваёю песняй.

...Шумяць лясы, маўчаць даліны,
Гарыць агнём крывавым рань,
Радзіму мілую пакіну—
Я, сын чырвоных партызан.

Я, партызан, заветы помню,
Геройства крок іх быў вялік,
Для іх найлепшы будзе помнік—
У бой ісьці як бальшавік.

Няхай і кулі сыплюць градам,
Гранаты рвуцца нада мной,
Пайду з чырвоным я атрадам
На ворага ў апошні бой.

Мы зломім ворага калёны,
Пераплывем крывавы вір...
Непераможны стан чырвоных,—
Ваюем мы за вечны мір.

Шумяць лясы, маўчаць даліны,
Гарыць агнём крывавым рань...
Радзіму мілую пакіну —
Я, сын чырвоных партызан.

---

ИВ. ШАПОВАЛОВ

# СТИХИ О СМЕЛОСТИ И СМЕРТИ

Смело мы в бой пойдем,
За власть советов
И как один умрем
В борьбе за это.

А по моему,
Товарищ запевало,
Чем меньше смертей,
Тем лучше.
Зачем всем умирать?
Лучше малой
кровью
побеждать научиться.
Великое геройство—
Подставить живот
Иль башкой заменить мишень.
Мы—
Страшны банкирам
Пока живем,
А не когда
Свернем себе шею.
Мы молоды,
Сильны.
Мы ходим не сутулясь.
День завтрашний
Для нас
Сияющ и огнист.
Пусть враг умрет
Сраженный моей пулей
Я—буду жить
Что-б строить коммунизм.

Хоць смерть в бою
Нахальней, чем в постели,
(Ее агенты—пули
Близко, близко носятся)
Я смерть свою
Предупрежу,
Прицелясь
И плюнув мельхиором
Врагу в переносицу.
Живые люди мы,
А все живое,
Родившись,
Страстно хочет жить.
Мы
С материнским молоком усвоим
Любовь к тому,
Что называют—жизнь.
Боимся смерти мы!
Да как же и иначе?
Падумаеш!..
Приятность—в глине тлеть!
Но коль я большевик,
То это значит,
Что я
Животный страх
В себе
Преодолел.
И мало этого!
В боях за пятилетку
Мы рады умирать
От пуль, иль шашки лезвия,
Но всем
Зачем в могилу лезть?
Смерть наша
Быть должна
Общественно полезной.

Служить себе
Заставив
Смерти страх,
Лицо земли
Перекроить мы призваны
И только потому
Готовы умирать,
Что жить хотим
В социализме.

---

АНДРЭЙ УШАКОЎ

# ПАГРАНІЧНАЯ ПЕСЬНЯ

Вецер роспачна скавыча,
Над мяжой гусьцее змрок.
Гэй, чырвоны пагранічнік,
Слых напружней,
Пільны зрок!
Бо сфармоўвае атрады
Генэрал бандыцкіх зграй
Для драпежнага нападу
На Савецкі вольны край.

ПРЫПЕЎ

**Днём, уначы, у непагоду,**
**Сьцеражэм спакой заводаў**
**Мы з вінтоўкай у руцэ.**
**Калі з прагнасьцю драпежнай,**
**Вораг рынецца на межы,—**
**Возьмем метка на прыцэл!**

Зноўку прагнуць
Рукі каты
Мыць працоўнаю крывёй,—
Сьняцца нашы камбінаты,
З урадліваю зямлёй.
Ды кідае ў ліхаманку
Іх наш буйны шпаркі рост.
Самалёты, бомбы, танкі
Ваш ня выратуюць лёс.

ПРЫПЕЎ

Бродзіць жудасным шкілетам
Здань крывавае вайны,—
Каб рэспубліку Саветаў,
Закаваць у кайданы.
Ды пагрозай правакацый
Не спалохаць нас ані,—
Бо на варце вольнай працы
Наш чырвоны вартаўнік.

ПРЫПЕЎ

РЫГОР КОБЕЦ

# А ЎСЁ-Ж ЗАСЬПЯВАЮ

„Чаму-ж нам ня пець“...

(*з народнае песьні*)

## КАМЭДЫЯ-ЖАРТ У ТРОХ ДЗЕЯХ

УДЗЕЛЬНІКІ:

Нач. заставы—малады, прыветлівы.
Цётка Насьця—калгасьніца, 42 год.
Дзед Мікола—яе муж, 51 год.

Шчэрбакоў, Сіневіч, Мандрык, Падарылаў, Мінкін, Астапчук, Чарняк — Чырвонаармейцы

Грамадзянін у штацкім

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Раніца. Невялічкі пакой начальніка заставы. У пакоі начальнік заставы і адзін чырвонаармеец. Начальнік заставы прачытаў якуюсьці паперу.

Нач. заставы. Добра (*падае чырвонаармейцу пакет*). Перадайце пошту на суседнюю заставу. Калі будзе варочацца ізноў, вазьмеце літаратуру.

Чырвонаармеец. Загадана перадаць пошту на суседнюю заставу і на зваротным шляху узяць літаратуру.

Нач. заставы. Можаце ісьці... Але не, пачакайце. Патрэбна будзе таксама перадаць (*шукае нешта на стале*).

Жаночы голас (*за дзьвярыма*). Як гэта нельга. Ды я да самага Варашылава пайду... Ды я... Пусьці, нячыстая сіла!..

Мужчынскі голас (*за дзьвярыма*). Ня крычы, цётка! Ідзі назад!

Жаночы голас. Вядзі да начальніка, ліхаманка на тваю галаву... Ці-ж гэта парадкі?... Пусьці кажу, лепей пусьці, бо я табе вочы выдзяру... Ай, божа-ж мой, божа!

Нач. заставы. Што за крык? Падыйдзеце высьветліць (*чырвонаармеец выходзіць*).

Мужчынскі голас. Куды лезеш. Няма начальніка, бяз рук, цётка, бяз рук.

Жаночы голас. Ай, божа-ж мой, божа! Ці-ж гэта і паскардзіцца нельга. Пусьці, трасца табе ў бок!

Нач. заставы. Што за глупства (*ідзе да дзьвярэй і натыкаецца на цётку Насьцю з двума чырвонаармейцамі*).

Насьця. Таварыш начальнік, таварыш начальнік! Што-ж гэта такое? Ды я да самага Варашылава пайду! Хто-ж гэта так робіць?

Нач. заставы. У чым справа, грамадзянка?

Насьця. Вось табе і чырвонаармеец. Вы толькі падумайце. Не-гэта табе ня пройдзе. Дальбог, ня пройдзе!

Нач. заставы. Не хвалюйцеся, грамадзянка, не хвалюйцеся. Спакойна раскажэце ў чым справа.

Насьця. Я-ж кажу паціханьку (*крычыць*) да самага Варашылава пайду, ён за гэта па галоўцы не пагладзіць... Ён за такую справу...

Нач. заставы. Вы як трэба раскажэце, грамадзянка, у чым справа, што там здарылася.

Насьця. Я-ж гавару толкам. Пайшла я да старшыні калгасу Мікуленка ды і кажу, а калі, кажу, вы таварыш старшыня, дроў дасьцё? Ён паглядзеў на мяне ды і кажа, а навошта вам дровы? Як гэта, кажу, навошта, у печы кажу паліць, есьці варыць. Яно як вам вядома, таварыш начальнік, ня зварыш, не зьясі. Ён гэта зноў паглядзеў на мяне, ды і кажа: пачакайце крыху, на тым тыдні ўсім будзем даваць. Я гэта да яго, ды і ў голас: а што, кажу, я буду цяперака паліць, калі ў мяне ў хаце ні цурочка няма. апрача таго я крыху дроў пазычыла ў кумы Стэфкі. На самае сьвята пазычыла. Яно, як вам вядома, таварыш начальнік, бывае так у жыцьці, сёньня я ў кумы пазычыла, а заўтра кума ў мяне. Свае-ж людзі, калгасьнікі. Ну дык вось, калі кажу пазычыла я ў кумы Стэфкі, дык павінна-ж аддаць. Ці-ж ня праўда, таварыш начальнік?

Нач. заставы. Карацей, грамадзянка, карацей! Не затрымлівайце. Часу няма.

Насьця. Але-ж, але-ж, таварыш начальнік, у мяне таксама часу няма. Дык вось, кажу я, павінна Стэфцы дровы аддаць, ці ня павінна? Тады старшыня і кажа...

Нач. заставы. Пачакайце, цётачка! Таварыш Шчарбакоў, раскажэце кароценька ў чым справа.

Шчарбакоў. Так, што дазвольце далажыць вам, таварыш начальнік, што воз з дрывамі ў яе абвярнуўся.

Нач. заставы. Пры чым жа тут вы?

Шчарбакоў. Так, што, дазвольце далажыць вам, таварыш начальнік, што я тут ня пры чым.

Насьця (*узмахнуўшы рукамі*). Ня пры чым! Ён ня пры чым! А хто ў мяне каня спудзіў? Хто воз з дрывамі перакуліў? Мо скажаш ня ты? Скажы, ня ты? Ды я да самага Варашылава пайду. Ведаеце, таварыш начальнік, вязу гэта я з дзялянкі дровы. Ну думаю добра: і сабе крыху будзе, і з кумой Стэфкай разьлічуся. Бо яно, як вам вядома, таварыш начальнік, кума Стэфка такая скнара, што калі...

Нач. заставы (*водзіць плячыма*). Фу, ты няшчасьце! Зноў кума Стэфка. Ды вы, грамадзянка, коратка раскажэце ў чым справа, што ён сапраўды воз перакуліў?

Насьця. Вядо-ма ён. Вунь і зараз воз на баку ляжыць, і дровы перакуліліся. Конь спудзіўся. Збрую парваў Што я цяперака рабіць буду?

Нач. заставы. Як жа гэта здарылася?

Насьця. Дык так. Еду я гэта з лесу. Сьцежка вузенькая, вузенькая ледзь праехаць, а ён таксама на возе насустрач мне едзе. Яно, яка вам вядома, таварыш начальнік, калі два вазы едуць, адзін другому насустрач, дык—жа-ж трэба разьмінуцца. Ён убачыў мяне ды крычыць: вярні ўправа! А як мяне павярнуць управа, калі з правага боку яма? Я і кажу яму, вярні, кажу, таварыш, сам, бо я з дрывамі, а ты паражнём, табе лягчэй разьмінуцца, а ў мяне воз цяжкі, дык я ня выеду. Ён гэта як закрычыць на мне. Не разгаварывай, вярні ўправа, а я, выбачайце, таварыш начальнік, праўду кажучы,

узяла ткнула яму дулю ды і кажу: не галёкай на мяне, не галёкай, не баюся! Тутака сам Варашылаў быў на манэўрах, дык і той на мяне ня крычаў. Ён гэта як падбяжыць да мяне, як улупіць майго каня пугай, конь аж на дыбкі ўзьвіўся, ды ў бок. Воз у яму, дровы ў яму і я ў яму. Ляжу гэта ў яме ды і думаю, на якім-жа гэта я сьвеце. Ці жывая я, ці няжывая? Тады села ды і мяркую пра сябе, вось табе думаю і разьлічылася з кумой Стэфкай.

Нач. заставы. Ну, а далей што?

Насьця. А нічога. Устала гэта я, ды і пачала яго лаяць, а тады кажу. Пайду скардзіцца начальніку. Гэта значыцца вам, таварыш начальнік. Зьбіраюся ісьці, а ён ня пускае.

Нач. заставы. Таварыш Шчарбакоў, гэта правільна?

Шчарбакоў. Ня зусім правільна, таварыш начальнік!

Нач. заставы. Як гэта ня зусім. Воз перакуліў?

Шчарбакоў. Перакуліў.

Нач. заставы. Вы прапанавалі гэтай грамадзянцы павярнуць у бок?

Шчарбакоў. Прапанаваў.

Нач. заставы. Вы бачылі, што воз нагружаны.

Шчарбакоў. Бачыў, таварыш начальнік!

Нач. заставы. Дык чаму-ж вы ня ўступілі дарогі, едучы паражняком.

Шчарбакоў. Мне патрэбна было сьпяшаць, таварыш начальнік, баяўся спазьніцца за прадуктамі для заставы.

Нач. заставы (*зварочваецца да другога чырвонаармейца*). Таварыш Астапчук, вызавеце сюды трох вольных чырвонаармейцаў.

Астапчук. Загадана вызваць трох вольных чырвонаармейцаў. (*Вышаў*).

Насьця. Таварыш начальнік, дык як жа-ж будзе з дрывамі? Цяперака-ж кума Стэфка галаву мне ад'есьць. Я-ж да самяга Варашылава пайсьці магу.

Нач. заставы. Зараз усё зробім, грамадзянка. (*зьвяртаецца да Шчарбакова*) Таварыш Шчарбакоў.

Шчарбакоў. Я слухаю, таварыш начальнік!

Нач. заставы. Вы разумееце, што зрабілі? Вы адчуваеце, што ваш учынак кладзе пляму на ўсю нашу заставу. Вы ведаеце, што ваш учынак ня варты званьня чырвонаармейца. Сорам, таварыш Шчарбакоў! Дрэнна! Колькі разоў мы вам гаварылі на палітзанятках пра тое, што чырвонаармеец павінен быць вытрыманым і прыветлівым з насельніцтвам.

Шчарбакоў. Шмат раз, таварыш начальнік.

Нач. заставы. Чаму вы паступілі з гэтай грамадзянкай, як салдат царскай арміі, а не як чырвонаармеец (*Шчарбакоў стаіць нахіліўшы галаву, а ў гэты час уваходзяць Астапчук, Мандрык, Сіневіч і Падарылаў*).

Астапчук. Зьявіліся, таварыш начальнік!

Нач. заставы. Добра! Вы, Астапчук, зараз-жа адпраўляйцеся выконваць заданае вам даручэньне. Сіневіч заместа Шчарбакова паедзе атрымаць прадукты для заставы. Мандрык і Падарылаў пойдуць з гэтай грамадзянкай выцягнуць воз з ямы і адвязуць ёй дровы да самае хаты. Шчарбакова за салдацкія адносіны да насельніцтва арыштоўваю на пяць сутак. Учынак Шчарбакова кладзе пляму на ўсю нашу заставу. Таварыш Мандрык і Падарылаў, ідзеце выконваць даручэньне!

Мандрык і Падарылаў. Прыказана ісьці выконваць даручэньне.

Мандрык (*з украінскім акцэнтам*) Бачтэ, таварыш начальнік, чы ня можна было-б оцэ так зробіць, шчоб мы одвэзлы і покололы і склалы, усэ як сьлід, щоб нам за цога самага Шчарбакова сорамна ня было. От жэж нарабів, дазвольце, таварыш начальнік!

Нач. заставы. Добра, дазваляю. Шчарбакоў—вы зараз-жа павінны адправіцца на гаўптвахту. Іншыя ідзеце па сваіх мясцох (*усе выходзяць і толькі Насьця затрымліваецца ля дзьвярэй*).

Насьця (*патупваючы*). Э-кхэм!

Нач. заставы. Грамадзянка, вы вольныя.

Насьця. Дзякую таварыш начальнік, шчыра дзякую.

Нач. заставы. Няма за што, бывайце здаровы. (*Углыбляецца ў паперы, пауза*).

Насьця. Кхэм... Э-кхэм!

Нач. заставы. Грамадзянка, я-ж вам казаў, што вы вольныя!

Насьця. Шчыра дзякую, таварыш начальнік! Надта шчыра дзякую. (*Пауза, патупывае*) Эк-хэм... Таварыш начальнік!

Нач. заставы. У чым справа, грамадзянка?

Насьця. А ці нельга так, каб без пяці дзён?

Нач. заставы. У чым справа, грамадзянка?

Насьця. А ці нельга так, каб без пяці дзён?

Нач. заставы. Гэта як?

Насьця. Ды так, каб ён, гэты самы чырвонаармеец, на гаўптвахце не сядзеў.

Нач. заставы. Нельга, грамадзянка, нельга!

Насьця. А можа як-небудзь? Ці-ж гэта можна! Пяць дзён. Жартачкі сказаць, а паспрабуй пасядзі. Таварыш начальнік, а можа як-небудзь?

Нач. заставы. Я ўжо сказаў вам, грамадзянка, што гэта немагчыма!

Насьця. Таварыш начальнік, будзь ласкаў. Там жа-ж і дровы дрэнныя. Зусім сырыя, дальбог сырыя, адным словам асіна, хай ім ліха будзе. Я ўжо з кумой Стэфкай як-небудзь разьлічылася-б. Таварыш начальнік!

Нач. заставы. Справа ня ў дрывах, а ў учынку. Ён жа мог вам і воз паламаць, і вас пакалечыць.

Насьця. Які там воз! Труха адна, а ня воз, каб і паламаўся не шкадавала-б, а тое, што я звалілася дык нічога, на пясок жа звалілася, на мяккое, і нават не пабілася. Дальбог, не пабілася, і не баліць у мяне нічога.

Нач. заставы. Немагчыма, грамадзянка, дысцыпліна. Самі павінны ведаць.

Насьця. Каб жа я ведала гэту дысцыпліну, ніколі-б не паскардзілася. Ці-ж гэта жартачкі? Пяць дзён за сырыя дровы (*крычыць*) Ды я на такія парадкі самому Варашылаву скардзіцца пайду (*бразнуўшы дзьвярыма, выходзіць*).

Нач. заставы. Ха-ха-ха!..

(Заслона)

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Вялікая, чыстая сялянская хата. Над сталом вісіць вялізарная электрычная лямпачка. У куце перад абразом Мікалая Ўгодніка вісіць зусім маленькая, маленькая чырвоная электрычная лямпачка. Каля печы возіцца цётка Насьця. У расчыненыя вокны даносяцца галасы Мандрыка, Падарылава і дзеда Міколы. Чуваць стук тапароў.

Мандрык (*уносіць у хату сечаныя дровы*) Вось вам, цітачка щэ. Кажыць куды іх класты. Нарубалы сьцілька дроў, що навіт на цыгэльні пічку вытапыты можна.

Насьця. Ды навошта-ж вы іх, таварыш, у хату несяцё. Хопіць, ну іх да чорта, гэтыя самыя дровы, самі паколем. Лепей у хату ідзеце палуднаваць з намі, я вось і яечні насмажыла і блінцоў сьпякла.

Мандрык. Ой ні, цітачка, бо мы таке люды, як сказалы, так і зробылы. Покі мя зробім до вэчэра выдсыля ны пойдэме. Трэбо-ж і поколоць і скласты (*выходзіць*).

Насьця. Ну, што вы скажэце, людзі добрыя. І нанесла-ж мяне халера. Пяць дзён. Жартачкі сказаць. А ўсё гэта кума Стэфа, каб ёй, каб ёй. (*Падыходзіць да вакна і крычыць*) Мікола, кліч хлапцоў у хату, палуднаваць трэба.

Голас Міколы. Ідзі сама кліч, мяне ня слухаюць.

Насьця. Як гэта ня слухаюць. Э-э! Таварышы, куды-ж вы гэта ўцякаеце. Нядобра, таварышы! У мяне сам Варашылаў палуднаваў, калі на манэўрах быў, і то ня грэбаваў, а вы ня хочаце. Хадзеце, хадзеце ў хату, бо калі не паслухаеце, раскідаю дровы, а тады скажу начальніку, што ня склалі.

Голас Мандрыка. Ідымо, цітачка, тылькі ось рукі помыемо.

Насьця. Глядзецё, у мяне хутчэй, хутчэй, у хаце памыеце. Мікола, цягні іх у хату. (*Уваходзяць Мікола, Мандрык і Падарылаў*).

Мікола. Глядзі ты на іх, якія ўпартыя. Усе дровы да апошняй цурачкі пакалолі, і тыя, што прывезьлі, і тыя, што яшчэ ад зімы ляжаць. Во якія цяперака салдаты пайшлі.

Падарылаў. Мы не салдаты, дзядуля, а чырвонаармейцы!

Мікола. Ну, няхай так, усёроўна, значыцца, вайсковыя. Дык сядайце за стол, госьці даражэнькія, сядайце не саромцеся.

Мандрык. Дзякуем, дзіду, мы не галодны.

Мікола. Ведаю, сынок, ведаю, што не галодныя, але ў вас мусіць яечні не даюць. Не абражайце нас, калі ласка. Надта-ж хочацца вас пачаставаць. (*Да Насты*) Наста, ты-ж таго, як яго, гэтага самага, ведаеш?

Насьця. Ведаю, ведаю. Ужо стаўлю. (*Насьця ставіць на стол закуску—яечню, бліны і бутэльку гарэлкі*).

Мікола (*разьлівае гарэлку ў чаркі*). Ну, дык чаго, як яго, гэтага самага. Вып'ем, госьці даражэнькія! Дай-жа божа росы цёплыя.

Падарылаў. Дзякуем, дзядуля, ня п'ем.

Мікола. Ня п'ецё? Не паверу. Ніколі не паверу. Якія-ж вы вайсковыя, калі гарэлкі ня п'ецё.

Падарылаў. А вось такі і ня п'ем.

Мікола. Дзіўна яно. Як яго, гэтага самага?

Мандрык. Ныможна, дзіду, дысцыпліна така.

Мікола. Дысцыпліна-а! Бач ты яе, сярдзітая яна ў вас, гэтая самая дысцыпліна. Але-ж я думаю па аднэй можна, хто-ж убачыць.

Падарылаў. Справа ня ў тым, што ўбачаць, а што самім сорамна будзе.

Мікола. Сорамна. Бач ты яго, як яго, гэтага самага. Я колькі разоў піў і ніколі сорамна ня было. Вось толькі галава трашчыць, гэта праўда, а наконт таго што сорамна, дык бог барані, вып'ем, хто ўбачыць?

Насьця. А ты, Мікола, ня прымушай, абы яно, як той казаў, ціха было. Дысцыпліна. Я бачыла праз гэтую самую дысцыпліну, чалавек пяць сутак атрымаў. За дровы, ды за гэтую самую куму Стэфку, каб ёй, каб ёй. Вы-ж закусвайце, калі ласка. Смачная яечня і бліны ня дрэнныя.

Мандрык. Вызмымо, вызмымо і блыны і яешню, закусымо. Я такы, що закусыць умію. Раз у одного дзядзька як закусіў, дык ня знав дэ дэватыся. Улупів штук двацацць яец, пісьля яец глэчык малака, а пасьля молака дэсяток гуркіў, шо-ж з моім жыботом робылася, одын тылька фэршал знае.

Падарылаў. Я даўно дамашніх бліноў ня еў. Паласаваўся.

Насьця. Вось і добра (*падсоўвае Падарылаву бліны*).

Мікола. Дык як-жа яно таго, як яго, гэтага самага.. адзін я буду піць, ці што?

Падарылаў. Выходзіць так.

Мікола. Ну, добра. Я буду піць, а вы закусвайце. Альбо вы закусвайце, а я буду піць. Вось яно адно, на адно і выйдзе. Хе-хе-хе. Ну дай жа-ж, божа, росы цёплыя (*п'е*).

Мандрык. Ці даўно вы ў колгосп запысалыся?

Насьця. Уга. Пяты год. Мы з самага пачатку, першымі запісаліся. Яно, праўду сказаць, я спачатку баялася, плакала, а цяперака нічога, жывем, хату нам далі, бо яно, як вядома, сваёй жа ня было.

Мандрык. Яку? Куркульску?

Насьця. Але-ж раскулачылі тутака аднаго моцнага кулака, далі нам яго хату ды і кажуць: жывеце, а пасьля ліктрычнасьць правялі і чыста, і відна.

Мікола. Хе-хе-хе, лоўка! Бач як загаварыла: і чыста, і відна. Ведаеш, як было, таварышы. Далі нам, значыцца, гэтую хату. Пачалі мы жыць. Ну вядома, па-старому сялянскаму звычаю, па цёмнаму: парасяты ў хаце, цяляты ў хаце, куры ў хаце, ну, вядома, значыцца, бруд, балота, гразь, дзецца няма куды. Прышоў раз старшыня калгасу, паглядзеў ды і кажа, калі ня будзеце глядзець за чыстатою, дык мы вас у горшую хату пасадзім, сказаў ды пашоў. А ў хаце, як было так і засталося. Тутака Сьцяпан, сын, значыцца, наш і прычапіўся да маткі, да яе значыцца, да Насьці, ды кажа ёй: няраха ты, а ня матка, праз цябе з мяне весь камсамол сьмяецца, і пачалася ў іх сварка.

Насьця. А вось і ня так. Спачатку сварыліся, а тады ён сказаў няраха.

Мікола. Няхай будзе па твойму, сказаў гэта ён, а Насьця ў крык, у гвалт,—такі лямант падняла, дзецца няма куды, а ў хаце, як было так і засталося. З таго часу кожны дзень сварка. І вось надумаўся неяк Сьцяпан. Паехаў ён у горад ды і купіў ён гэту вялізную лямпачку. Увечары, як засьвеціць лямпа, як ударыць

сьвятло па хаце, як палезе бруд і гразь з усіх куткоў. Насьця аж вочы зажмурыла, а я стаю ды і ня ведаю ў чым тут справа: ці то сьвятло вочы б'е, ці гразь. І да таго-ж нам хата бруднай паказалася, а лямпачка сьвеціць, а яна шпарыць. Мая Насьця як ухопіць шчотку, як возьме ў рукі анучу, як пачне скрэбці, месьці, мыць. Яна скрабе, а лямпачка сьвеціць, яна мые, а лямпачка шпарыць. Тыдзень парадкі ў хаце наводзіла, чыстату, значыцца. Цяперака бачыце як добра: і чыста, відна, і паветра сьвежае, і лаянка сьціхла. Вось вам і лямпачка. Вып'ем, таварышы, за электрычнасьць.

Падарылаў. Нельга, дзядуля, ніяк нельга.

Мікола. І за электрычнасьць нельга? Глядзі ты на яго як яго, гэтага самага, ну хоць па аднэй.

Насьця. Ня прымушай, Мікола, служба ня дружба.

Мікола. Яно так. Зноў самому прыдзецца піць. Ну, за добрае жыцьцё, гэта значыцца, за электрычнасьць я хацеў сказаць (*п'е*).

Падарылаў (*паказваючы на абраз з лямпачкаю*). А хто-ж гэта сьвятога электрафікаваў, таксама Сьцяпан?

Насьця. Не. Гэта стары. Сьцяпан жа-ж ня верыць. Ён жа-ж у нас кансамол. Нават бога не прызнае. Разумны ў нас Сьцяпан, хоць і лаяўся са мною. А мы ўжо так па старому звычаю, хоць у царкву і ня ходзім, а часам лбы перахрысьцім, таму вось і Мікола дастаў недзе гэтую маленькую лямпачку, павесіў угодніку пад бараду і ходзіць па хаце, радуецца, дагадзіў сьвятому.

Мікола. А вядома, дагадзіў. Лепей сьвечкі. Ня дыміць, паветра ня псуе. Апрача таго, чыста. І мне весела і сьвятому добра, ды зноў-жа карысьць. Ня трэба цяперака грошы на сьвечку траціць, з усіх бакоў добра.

Насьця. Чаму-ж не закусваеце. Закусвайце, калі ласка.

Мандрык. Там мы вжэ. Я так наівся, што мусіць і в казармэ ісіы ня буду. Шкода, дужа смачны борщ у нас сёньня, а вот жа наівся тут, там ня прыдэця.

Падарылаў. Дзякую, пад'еў. Ды і пара ісьці (*зьбіраецца выходзіць*).

Мікола. Вы-ж заходзьце да нас. У нядзелю Сьцяпан прыедзе.

Мандрык. Я як-жа, зайдэмо.

Насьця (*перадае яму клумачак*). Таварыш, перадайце калі ласка таму, што сядзіць. Няхай паласуецца, ды скажэце яму каб не злаваў, я-ж не ведала, што так здарыцца, ці-ж гэта парадак пяць дзён за сырыя дровы сядзець. Дзякую вам за дапамогу, вы-ж перадайце і скажэце, што ўвечары дзед яму гуркоў з мёдам прынясе. Заходзьце да нас часьцей і яго з сабой прыводзьце.

Мандрык. Прывэдомо, бывайтэ здоровенькі!

Падарылаў. Бывайце, дзякую!

Мікола. І вам вялікае дзякуй. Вы-ж глядзеце, заходзьце.

**(Заслона)**

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Вечар. Пакой што паказаны ў першай дзеі. У пакоі начальнік заставы чырвонаармеец і нейкі ўсхвалёваны грамадзянін у штацкім.

Грамадзянін. Дазвольце, на якой падставе, вы мяне затрымалі?

Нач. заставы. На той падставе, што ў вас няма ні, дакумэнтаў, ні пропуску. А тут, як вам вядома, пагранічная паласа.

Грамадзянін. Прабачце, я забыўся дома дакуманты. Я магу зараз-жа прынесьці. 10 мінут усяго.

Нач. заставы. Не. Вам прыдзецца пачакаць у нас. Даведаемся, хто вы і, калі патрэбна, бязумоўна адпусьцім. А пакуль прыдзецца пачакаць. Тав. Чарняк, адвядзеце грамадзяніна.

Грамадзянін. Дазвольце, дазвольце, як жа гэта, што мне рабіць, дайце раду?!

Нач. заставы. Прыдзецца пачакаць, грамадзянін!

Чарняк. (*падыходзіць да грамадзяніна*). Пойдзем, грамадзянін.

Грамадзянін. Але дазвольце, дазвольце... я пратэстую (*у гэты момант за дзьвярыма чуваць голас дзеда Міколы, пяе*).

У ўчора ўночы выпала пароша
Дзед бабу палюбіў, што баба хароша...

Голас чыр-ца. Цішэй дзед, нельга пець (*абодва ўваходзяць у пакой*).

Чырвонаармеец. Таварыш начальнік, прышлося затрымаць: шуміць, пяе.

Мікола. А-а! Таварыш начальнік, сынок, добры вечар, а я вас шукаў, ведаеце гуркоў з мёдам прынёс, чырвонаармейцу таму, што вы на пяць дзён пасадзілі.

Нач. заставы. Цішэй дзядуля (*зьвяртаецца да чырвонаармейца*) Тав. Чарняк адвядзеце затрыманага (*грамадзянін і чырвонаармеец выходзяць*)

Мікола. А гуркі з мёдам смачная рэч, вось калі ласка перадайце яму. Насьця казала, каб я з мёдам і агуркамі нават і да хаты не варочаўся.

Нач. заставы. Нельга, дзядуля! Гэтак і дысцыпліну ўсю можна парушыць.

Мікола. Як яно таго, гэтага самага, і на агуркі з мёдам дысцыпліна, а калі я хачу чалавека пачаставаць.

Нач. заставы. Да хаты трэба ісьці, дзядуля. Заўтра прыдзеце, калі працьвярэзіцеся.

Мікола. А ці-ж я п'яны? Праўда, крануў крыху, але зусім ня п'яны, дальбог ня п'яны, я нават і засьпяваць магу (*і адразу на ўвесь голас зацягвае*):

Дзед бабу палюбіў, што баба хароша!..

Нач. заставы. Цішэй, цішэй, дзед! Зараз міжнародны цягнік пройдзе. Нельга парадак парушаць, нельга пець.

Мікола. Чаму нельга? Ці-ж калі чалавек вясёлы, дык гэта дрэнна. Няўжо-ж калі гэтыя самыя міжнародныя едуць, дык і пець нельга? Няхай яны плачуць, а я запяю...

Нач. заставы. Ідзеце, дзядуля, да дому. Спаць пара вам. Таварыш Мінкін, адвядзеце яго за станцыю, ды глядзеце каб ён ня пеў.

Мікола. Ня буду, сынок, ня буду. Дальбог ня буду. Я такі сказаў, што ня буду, значыцца ня буду, а толькі куды я агуркі з мёдам дзеў.

Мінкін. Пойдзем дзядуля (*абодва выходзяць*).

Нач. заставы (*ля тэлефону*). Так, без дакумантаў. Добра. Затрымаць. (*У гэты самы момант за дзьвярыма чуваць зноў голас Міколы...*) Ды сяду я край ваконца, ці ня ўбачу чорнаморца (*зноў абодва з Мінкіным уваходзяць у памяшканьне*).

Мінкін. Таварыш начальнік, бяда з ім, зноў пяе.

Нач. заставы. Ну што ты з ім будзеш рабіць. Дзядуля, скажэце на праўдзе, вы перастанеце шумець, спыніце сьпевы?

Мікола. А што-ж мне плакаць ці што? Хата цёплая, есьці хапае, нават электрычнасьць правялі, дык чаму-ж мне ня пець. (*І тут-жа на ўвесь голас*)

„Чаму-ж ня гудзець, калі ў маей
хатаньцы парадак ідзець..."

(*У гэты-ж час убягае ў пакой Насьця*).

Насьця. Ну вось я так і ведала, так і ведала, зноў п'яны. Таварыш начальнік, затрымайце яго хоць раз.

Нач. заставы. Прыдзецца і ня толькі затрымаць, але і аштрафаваць.

Мікола. За вошта?

Нач. заставы. За тое, што парушаеце парадак на пэроне, сьпяваеце.

Мікола. А чаго сумаваць, сынок?

Нач. заставы. Я ня сынок, а начальнік заставы!

Мікола. Можа каму і начальнік, а мне сынок. Ды штрафуй, сынок, штрафуй. Калгас у нас вялікі, моцны, багаты, а я тамака лепшы пчаляр, гэта значыцца, як яго, таго, гэтага самага, ну, ўдарнік, вось прэмію нават атрымаў. Дык калгас за мяне і штраф заплаціць. Багаты наш калгас, і жывецца добра, дык чаму-ж мне ня пець. Таварыш начальнік, дальбог засьпяваю (*намагаецца пець*).

Нач. заставы. Цішэй стары, не парушай парадку! Вас, як бачу, прыдзецца пасадзіць!

Мікола. А я сяду. Вось вазьму і сяду. Чаму-ж не пасядзець? (*Садзіцца на крэсла, што стаіць побач*).

Насьця. Вы паглядзеце на яго, людзі добрыя—звар'яцеў на старасьць, у крэсла ўбіўся, што вы на гэта скажаце.

Нач. заставы. Эгэ, грамадзянін, ды вы як бачу адчуваеце сябе як дома.

Мікола. А як жа-ж, вядома так. Гэта-ж раней было, сынок, гадоў з дваццаць таму назад. Прышоў я раз сюды на станцыю ды і забыўся шапку перад ураднікам зьняць. Ён гэта як падскочыць да мяне, як

жвахнец, мне ў вуха, як закрычыць: „скацина, почему шапки не снимаеш? Перед кем стоишь?" А тады ў другое вуха. Я ўжо хацеў і шапку здымаць, а ён мне ў зубы,—„хам!"—крычыць на мяне, а тады ў кутузку. Тыдзень я сядзеў, дальбог тыдзень. Лапатаў вураднік быў. Здаровы, чорт, кулак у яго, як бручка. А цяпер што? Калгас у нас моцны, жыць добра, ніхто мяне ня б'е, шапкі не прымушаюць здымаць, нават на крэсла пасадзілі і гутараць як з панам, дык чаму-ж мне ня пець? Дальбог запяю.

Нач. заставы. Вось няшчасьце на маю галаву звалілася. Нельга, дзядуля, пець. Парадак парушаеце. Няўжо па сто раз казаць патрэбна.

Мікола. Ня буду, сынок, дальбог ня буду, абы яно ціха было, а гуркі вось толькі з мёдам перадаў чырвонаармейцу, што сядзіць, і пусьці яго, калі ласка, я і пайду.

Насьця. Так, таварыш начальнік, ён такі, што пойдзе, вы толькі чырвонаармейца пусьцеце.

Нач. заставы. Ці-ж нельга было па гэтай справе пагаварыць у цьвярозым выглядзе? Няўжо-ж патрэбна было прыйсьці п'яным?

Мікола? А як-жа мне ня быць п'яным? Прывезьлі чырвонаармейцы дровы аж да самай хаты, пакалолі, склалі, селі палуднаваць, я паставіў ім таго, як яго, ну, гэтага самага, значыцца, паўлітра гарэлкі, а яны ня п'юць, дысцыпліна, кажуць, прышлося мне аднаму выпіць. Дык вось сеў, ды адзін поўлітра і выпіў, дык як жа-ж тут ня будзеш п'яным?

Нач. заставы. Што вы, грамадзянка, жонка яго?

Насьця. Так, таварыш начальнік, так—жонка, а ён значыцца мой муж. Ён добры. Таварыш начальнік, дальбог добры. І ўжо не такі п'яніца, як людзі кажуць. Ніразу болей як поўлітра не выпіваў.

Нач. заставы. Вось што, грамадзянка, забірайце вашага мужа дадому, а то прыдзецца яго затрымаць.

Насьця. Забяру, таварыш начальнік, забяру. Вы-ж толькі калі ласка пусьцеце таго чырвонаармейца, што сядзіць. Ці-ж гэта варта чалавеку за сырыя дровы, ды за куму Стэфку пакутваць?

Нач. заставы. Немагчыма, грамадзянка, ніяк немагчыма,

Насьця. Таварыш начальнік, калі ласка, ну дык-жа я вас прашу.

Нач. заставы. Ну добра, я можа што-небудзь зраблю (*зьвяртаецца да Мінкіна*). Таварыш Мінкін, пайдзеце і скажэце каб вызвалілі Шчарбакова і накіравалі сюды да мяне (*Мінкін вышоў*).

Насьця. Дзякую, вельмі дзякую, таварыш начальнік!

Мікола. Во добра, дык добра! Цяперака і я, сынок, бачу, што ты сапраўды вялікі начальнік (*у гэты момант уваходзіць Шчарбакоў*).

Нач. заставы. Тав. Шчарбакоў, па просьбе гэтых грамадзян я здымаю з вас пакараньне.

Насьця. Ай-жа-ж дзякую, таварыш начальнік! Да чаго-ж дзякую.

Мікола (*зьвяртаецца да Шчарбакова*). А, сынок, хадзі мілы сюды, агуркі з мёдам будзем есьці, вось жа-ж прынёс табе (*ставіць мёд і агуркі на стол*) і начальніка пачастуем, ды толькі ня злуй, бо калі-б Насьця ведала, што яно так здарыцца, ніколі-б скардзіцца не пайшла. Яна ў мяне добрая, добрая, толькі крычаць любіць, а не баюся, дальбог не баюся, вось табе крыж сьвяты, не баюся (*п'яна жыгаецца рукой, у якой трымае агурок*).

Нач. заставы. Ну як-жа, таварыш Шчарбакоў, сорамна.

Шчарбакоў. Сорамна, таварыш начальнік!

Нач. заставы. Глядзеце, каб ніколі такога ўчынку вы не паўтарылі. Вы паступілі з гэтай грамадзянкай амаль так, як дваццаць год назад паступіў са старым ураднік Лапатаў. Такія ўчынкі ўласьцівы толькі салдафонам царскай арміі, але ня чырвонаармейцам. Вы гэта адчуваеце Шчарбакоў?

Шчарбакоў. Адчуваю, таварыш начальнік! Прабачце мне, таварыш начальнік. Прабачце і вы, грамадзяне, (*зьвяртаецца да Насьці і Міколы*), ніколі я цяпер такой памылкі не зраблю. Прабачце.

Мікола. Вось і добра. Ты, сынок, ня сумуй!

Насьця. І воза не шкадуй, хай яму ліха і возу, і дрывам, ўсё гэта, усё ведаеш, кума Стэфка вінавата.

Мікола. Сялайце калі ласка. Агуркамі з мёдам пачастуем вас. Таварыш начальнік, сядай бліжэй, вось сюды, да нас у кучу і запяем разам.

Нач. заставы. Нельга, дзядуля, пець, міжнародны цягнік хутка будзе, чужаземцы едуць.

Мікола. Ну няхай сабе едуць, а калі яны ня любяць каб мы пелі, дык няхай ня слухаюць, калі яны песьні ня любяць, няхай плачуць. У нас жа такое жыцьцё, ты толькі, сынок, падумай, вось жа дальбог запяю (*пяе*)

„...Чаму-ж нам ня пець, чаму-ж ня гудзець!“...

Нач. заставы (*бездапаможна разводзіць рукамі і усьміхаецца*). Ну што ты з ім будзеш рабіць?

**КАНЕЦ**

А. СТЭЦКІ

# САРАКАГОДЗЬДЗЕ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ МАКСІМА ГОРКАГА

**(Даклад на ўрачыстым юбілейным сходзе 25 верасьня 1932 году ў Дзяржаўным акадэмічным вялікім тэатры СССР)**

Таварышы, пачатак літаратурнай дзейнасьці А. М. Горкага—знаменальная дата; яна супадае з гадамі, калі рабочая кляса нашай краіны ўпяршыню выступае, як самастойная сіла, калі пачынаецца ўздым рабочага руху ў Расіі, калі закладваюцца першыя ячэйкі нашай партыі, калі пачынае сваю дзейнасьць У. І. Ленін. Гэта ня выпадковае супадзеньне. Дзейнасьць Аляксея Максімавіча самым цесным чынам зьвязана з рэвалюцыйным рабочым рухам Расіі; дух рэвалюцыі знайшоў сваё выяўленьне ў цэлым радзе выдатных твораў А. М.

Сорак год дзейнасьці Горкага немагчыма ахарактарызаваць ў нямногіх славах. Гэта дзейнасьць ахапіла гістарычную паласу вялізарнага значэньня. Уздым рабочага руху 90-х гадоў, рэвалюцыя 1905 г., гады рэакцыі, імпэрыялістычная вайна. Кастрычніцкая рэвалюцыя, гады грамадзянскай вайны, сацыялістычнае будаўніцтва,—вось такая гістарычная паласа, у якой дзейнічаў і дзейнічае ў цяперашні час А. М. Горкі. За яго шырокімі плячыма стаіць цэлая гісторыя, і якая гісторыя! Тое пакаленьне, якое прадстаўляю я, выдавала, зьяўляючыся на сьвет, свой першы піск у той час, як А. М. Горкі ўжо гаварыў поўным голасам на ўсю тагачасную Расію.

Мне, таварышы, прыдзецца толькі мімаходам успомніць аб выдатным асабістым лёсе Горкага, які даволі добра ўсім вядомы. Наш вялікі пісьменьнік прайшоў вялікі жыцьцёвы шлях. Ён хлябнуў горкі келіх у гады свайго дзяцінства і юнацтва, прайшоў шляхі бадзяньняў, вытрымаў на дне буржуазна-памешчыцкай Расіі ціск у сотні атмосфэр, і, ня гледзячы на ўсё, загартаваны і ўпарты, вышаў на шырокі шлях літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці.

Сорак год таму назад, калі зьявіўся „Макар Чудра", у пашпарце Горкага стаяла: „майстар малярнага цэху". Прайшло нямнога год і майстар малярнага цэху паказаў сябе вялікім майстрам мастацкага слова, якім мы яго сёньня з радасьцю вітаем.

Таварышы, няма магчымасьці таксама ахарактарызаваць цалкам сёньня мастацкую творчасьць Аляксея Максімавіча. Яна надзвычайна шматгранная і разнастайная.

Горкі пісаў і вялікія мастацкія эпапэі, і невялікія апавяданьні, і палітычныя рэчы, і драмы. Таксама рознастайныя і матывы, якія А. М. Горкі распрацоўвае ў сваіх творах. Я сёньня спынюся на галоўным, дамінуючым мотыве яго твораў, які робіць Горкага вялікім пралетарскім мастаком, на тым матыве, які дазволіў У. І. Леніну сказаць, што А. М. Горкі зьяўляецца вялізарнейшым аўтарытэтам ў справе пралетарскага мастацтва, што ён моцна зьвязаў сябе сваімі мастацкімі творамі з рабочым рухам Расіі і ўсяго сьвету.

Горкі прышоў у літаратуру і грамадзкую дзейнасьць поўны нянавісьці да буржуазна-памешчыцкага ладу, які душыць і калечыць людзей, да абывацельскай тупасьці і кансэрватызму, пакорнасьці лёсу, што затрудняюць барацьбу з ладам уціску і экcплёатацыі.

У сваіх мастацкіх творах Горкі гэты лад, лад гвалту і ўціску, зьніштажальна крытыкаваў, прычым ён зрабіў гэта, галоўным чынам, сродкамі мастацкай творчасьці.

Гэта тэма, якую ён распрацаваў у сваіх мастацкіх творах,—тэма выкрыцьця капіталізму, яна, здавалася-б, ня новая ў расійскай літаратуры. Яна знайшла свой выраз у творах Талстога, якога Ленін цаніў за тое, што ён зрываў усе і ўсялякія маскі з буржуазна-памешчыцкага ладу. Горкі ўнёс, аднак, новае ў гэту тэму, ён паставіў яе па-свойму і абазначыў новую ступень разьвіцьця рускай літаратуры, яе паваротны пункт.

Калі ўзяць буйнейшыя творы Горкага і яго дробныя апавяданьні, дык у іх асноўным, дамінуючым мотывам зьяўляецца паказ зьвярынай і жорсткай сілы капіталізму. Вазьмеце такія творы, як „Фома Гордеев“, „Трое“, „Дело Артамоновых“, „Матвей Кожемякин“ і рад іншых твораў,—вы там убачыце, як Горкі агаляе гэту сілу, зрывае з яе ўсе і ўсялякія маскі, паказвае яе прыроду, яе сутнасьць, ашуканства і хлусьню, кроў і бруд капіталістычнага накапленьня, прыгнечаньне і эксплёатацыю, на якія яна апіраецца. Ён разам з тым выкрывае ў сваіх мастацкіх творах і тое, як гэта сіла дыша, калечыць чалавечую асобу, як яна гасіць свабодную мысьль і душыць ўсякі парыў да новага. „Вы ня жыцьцё будавалі,—выкрывае Фама Гардзееў буржуазію,—вы памыйную яму зрабілі. Бруд і духату разьвялі вы рукамі сваімі. Ці ёсьць у вас сумленьне? Ці памятаеце вы бога! Пятак—ваш бог. А сумленьне вы прагналі... Куды вы яго прагналі? Крывапіўцы! Чужой сілай жывяце... чужымі рукамі працуеце! Колькі народу крывёю плакала ад вялікіх спраў вашых. І ў пекле вам, сволачам, месца няма па заслугах вашых... Не ў агні, а ў гразі кіпучай варыць вас будуць. Вякамі не пазбудзецеся пакут“...

Горкі выкрывае капіталізм, як вялікі і яркі мастак, які ў поўнай меры ўладае сваім майстэрствам. Справа ў яго зусім ня зводзіцца да выкрываючых прамоў, якія чуюцца ў тэй ці іншай форме на старонках яго твораў. Гэтыя творы—не публіцыстыка, а мастацтва. Там вы ня знойдзеце эканамічных трактатаў і формул дадатковай вартасьці. Горкі кляйміць капіталістаў, агаляе іх сутнасьць сваёй зброяй—сродкамі мастацкай творчасьці, сродкамі мастацкага слова. Гэта значна складаней і надае асаблівую сілу яго творам.

Энгельс пісаў наконт Бальзака, што ён лічыць яго вялізарнейшым мастаком рэалістам, што ён ставіць яго значна вышэй Заля, галоўным чынам, таму, што Бальзак ня скочваецца да голай публіцыстыкі, а заўсёды застаецца на сваіх пазыцыях мастака; што ён разам з тым з такой сілай, з такой яркасьцю паказвае гісторыю францускага грамадзтва, што чытаньне Бальзака дало яму, Энгельсу, больш чым дзесяткі іншых эканамічных, гістарычных і статыстычных работ.

Уся гэта мерка, якую ўжываў Энгельс да Бальзака, прыстасоўна таксама і да твораў Аляксея Максімавіча. Горкі дзейнічае выяўленчымі сродкамі мастацтва. Ён даводзіць гэтыя малюнкі, якія прадстаўляюць капіталізм, малюнкі купцоў і фабрыкантаў да такой сілы, што яны ўстаюць перад вачыма з усёй выразнасьцю ў сваіх наглядна-адчувальных рысах. Недарма мільянэр, волскі купец Бугроў дапытваўся ў свой час у Аляксея Максімавіча, з каго ён сьпісаў купца Маякіна. Бугроў лічыў, што такі купец павінен быў абавязкова дзесьці існаваць. Зразумела, А. М. Горкі купца Маякіна ня сьпісаў, не сфатаграфаваў, але на аснове сваіх назіраньняў, на аснове свайго жыцьцёвага вопыту ён стварыў гэты вобраз, прычым гэты вобраз адзначаецца такой дзіўнай сілай і такой праўдзівасьцю, што вы, чытаючы гэты твор, павінны сказаць, што такі чалавек абавязкова быў, што ён існаваў. А разам з тым, за гэтай адчувальнай выразнасьцю, пры якой кожны вобраз паўстае ў сваёй рэальнасьці у сваёй індывідуальнасьці,—вы бачыце ў гэтых фігурах вялікую сілу мастацкага абагульненьня. За ўсімі гэтымі Шчуравымі, Артамонавымі, Маякінымі адчуваюцца Марозавы, Бугровы, Мамантавы, дзесяткі і сотні айчынных капіталістаў, якіх Аляксей Максімавіч наглядаў і вобразы якіх ён даў у сваіх творах.

Вобразы гэтыя буджаюць цэлы рад аналёгій, цэлы рад мысьляй. Вазьмеце вы купца Шчурава з „Фомы Гордеева“. Гэта—волскі краж, які вырас дзесьці на берагох Волгі, на крыві і брудзе. Калі А. М. адчыняе перад намі дзьверы яго каморкі ў гасьцініцы, то адчуваецца пах, які ідзе адтуль. А разам з тым, калі вы ўбачыце перад сабой фігуру гэтага купца, успамінаюцца бліскучыя старонкі „Капиталу“, дзе апісваецца працэс капіталістычнага накапленьня. Гэта фігура купца, які гаворыць аб боскім, фігура старавера, які падтрымлівае нейкія скіты і разам з тым гатоў кожнаму, хто стане ў яго на дарозе, зламаць хрыбет,—хіба-ж яна не нагадвае тую характарыстыку капіталістычнага накапленьня, якая дана ў Маркса і якая выказана не ў мастацкіх вобразах, аў формулах жалезнай марксавай лёгікі! хіба-ж не нагадвае гэта фігура тую характарыстыку капіталу, якую Маркс падае ў сваім вялікім творы:

„Разёсьць ў наяўнасьці выстарчальны прыбытак, капітал становіцца сьмелым. Забясьпечце 10 проц.—капітал згодзен на ўсякі ўжытак. Пры 25 проц. ён становіцца ажыўленым, пры 50 проц. ён сапраўды гатоў зламаць сабе галаву. Пры 100 проц. ён топча нагамі ўсе людзкія законы. пры 300 проц. няма такога злачынства, на якое ён не рызыкнуў-бы хоць-бы пад страхам шыбеніцы“. Тое, што выказана ў Маркса ў жалезных законах лёгікі, знайшло сваё мастацкае ўцелясьненьне ў мастацкіх творах Аляксея Максімавіча.

Які-небудзь прыдзірлівы крытык, чытаючы „Дело Артамоновых" скажа „Ну, што-ж гэта за твор, тут-жа фабрыка недзе на заднім пляне, тут ня відаць эксплёатацыі на гэтай фабрыцы".

Сапраўды, сіла капіталістычнага накапленьня, сіла драпежнікаў даецца Горкім не ў разрэзе капіталістычнага досьледу. Аўтар ня ўводзіць нас проста на фабрыку, але ён у той-жа час паказвае, як расьце і на чым расьце гэта „Дело Артамоновых", вы адчуваеце, як яно падобна да спрута ахапляе і смокча рабочы люд. Радам яркіх і мастацкіх штрыхоў дае ўзаема-адносіны паміж капіталістамі.—Артамонавымі і паміж рабочымі, прычым гэтыя штрыхі надзвычай маляўнічы, бо яны паказваюць супярэчнасьці паміж рабочай клясай і капіталістамі, іх узаемаадносіны і барацьбу на розных гістарычных ступенях. Там не разгортваецца перад вамі непасрэдна тэорыя крушэньня капіталізму, але вы ў той-жа час бачыце і адчуваеце па ходу ўсяго твору, што „справа" ідзе да канца, і калі Ціхан гаворыць старому Артамонаву: „Гэта супроць цябе вайна, Пятро Рыгорыч", дык гэта „супроць цябе вайна" насоўваецца з усёй няміну-часьцю лёсу на працягу ўсяго мастацкага твору.

Ёсьць у нас крытыкі і крытычныя тэорыі, якія імкнуліся даць некалькі іншае асьвятленьне значэньню твораў М. Горкага. Але гэта фальшывыя тэорыі.

Ёсьць тэорыя, па якой пісьменьнік ніяк ня можа выйсьці за межы сваёй уласнай клясы і даць вобразы другой клясы і што пісьменьнік у кожным творы абавязкова мае свой цэнтральны, стрыжнявы вобраз, які адлюстроўвае тое, што ён хоча сказаць і які характарызуе яго клясавую прыроду.

Творчасьць Горкага ясьней яснага паказвае нягрунтоўнасьць гэтай тэорыі, бо Горкі з усёй сілай мастака, усімі выяўленчымі сродкамі дае аднолькава яркія фігуры рабочых, напрыклад, Паўла, хахла, Пелагеі Нілаўны, якая зьяўляецца незабыўнай, аднэй з самых лепшых фігур Аляксея Максімавіча, і,—разам з тым,—яркія фігуры купцоў і абывацеляў. Гэтая тэорыя — глупства і суцэльная фальш; яна закрывае шляхі да пазнаньня мастацкага твору, да яго разуменьня, яна прыводзіць да зусім няверных ацэнак мастацкіх твораў. Важна ідэя ўсяго мастацкага твору, важны яго эфэкт, яго сэнс, яго зьмест, важна тое, як ён уплывае на чытача. І ў гэтых адносінах эфэкт і ўплыў твораў Горкага можна ахарактарызаваць тым, што гэтыя творы мабілізуюць чытача супроць усяго консэрватыўнага застылага, рабскага, супроць усяго прытупляючага і атупляючага чалавечую асобу, мабілізуюць супроць уціску і эксплёатацыі, на барацьбу за сацыялізм. „Трэба вожыка пусьціць пад чэрап чалавеку, каб ён ніколі не супакойваўся",—так гаворыць адзін з пэрсанажаў Горкага. І такога вожыка пад чэрап А. М. Горкі запускае кожным сваім творам.

А. М. Горкі па-майстэрску малюе псыхолёгію людзей. Але ён не займаецца вывучэньнем і паказам усіх самых тонкіх ніцяй і пераліваў псыхалёгічных перажываньняў, як чагосьці самастойнага,—так сказаць, з замілаваньня да мастацтва. Ён не разглядае псыхалёгічнае жыцьцё як ней-

кае замкнутае кола, як нейкае кола, адарванае ад усяго жыцьця. Не, А. М. Горкі разглядае, бярэ і паказвае псыхалёгію чалавека ў сувязі з сацыяльнымі ўмовамі. Некаторыя з яго твораў маюць характар вялікіх мастацкіх біяграфій. Ён бярэ чалавека з самых першых дзён, вядзе праз ўсе пэрыпэтыі жыцьцёвага шляху і паказвае, як асяродзішча, абставіны, перашкоды і падзеі гэтага жыцьцёвага шляху фармуюць чалавечую псыхалёгію. У гэтых адносінах Горкі дасягае вялізарнага майстэрства. Вазьмеце вы такія рэчы, як „Матвей Кожемякин". „Фома Гордеев", „Жизнь Клима Самгина". Вы літаральна тут адчуваеце старонка за старонкай, як перад вамі фармуецца чалавечая асоба. Гэтае вялікае майстэрства таму, што тут, паказваючы матэрыялістычна псыхалёгію чалавека, А. М. Горкі ўмее праз індывідуальныя лёсы паказаць жыцьцё сацыяльнага цэлага, зусім не спаўзаючы на пазыцыі публіцыста, ці гісторыка. Ён застаецца на сваіх пазыцыях мастака. Гэтаму вялізарнаму майстэрству павінны вучыцца і вучыцца нашы пісьменьнікі ў А. М. Горкага.

Горкі—майстар вялікіх мастацкіх абагульненьняў. Здавалася-б, ён паказвае нейкіх купцоў, волскіх фабрыкантаў, часамі дзівакоў, часамі страшных у сваёй зьвярынай сіле драпежнікаў. Але А. М. Горкі заўсёды паказвае іх з пункту гледжаньня самай рэвалюцыйнай клясы. Ён стаіць на пазыцыях пралетарыяту, для якога гэтыя Маякіны, Артамонавы ды інш. стварылі нечалавечыя ўмовы існаваньня. Іменна таму, адсюль, паказваючы ўвесь стары лад, усе пласты грамадзтва, А. М. Горкі—набывае сілу, якая не даецца ніякаму мастаку другой клясы. Іменна з пазыцый рэвалюцыйнай клясы Горкі зрывае ўсе і ўсялякія маскі, пакрывалы двуіснасьці: ханжанства, культурнага бляску, паказнога чалавекалюбства, што надзявалі, накідвалі на сябе яго героі. Ён умее паказаць іх ва ўсёй аголенасьці, умее паказаць іх сапраўдную прыроду капіталістычных драпежнікаў. Дзякуючы гэтаму, яго мастацкія творы маюць характар вялікіх абагульненьняў.

Гэта ня толькі датычыць яго вялікіх твораў. Вазьмеце вы яго апавяданьне „Кирилка". Здавалася-б, невялікі нарыс аб эпізодзе, які адбыўся ля пераправы. А між тым, у гэтым невялікім нарысе пададзена багатая гама сацыяльных адносін, падхоплены і паказаны некаторыя вярнейшыя рысы псыхалёгіі селяніна. Гэта робіць „Кирилку" адным з лепшых твораў Аляксея Максімавіча.

А „Городок Окуров"! Хто да Аляксея Максімавіча з такой выключнай сілай здолеў паказаць зьвярыны быт акураўскай Расіі, на які іншыя мастакі накідвалі ідылічныя пакрывалы дзівацкай і прастадушнай Русі! Аляксей Максімавіч паказаў дрыгву зьвярынага быту гэтай Расіі, якая засмоктвала ўсё, што трапляла ў яе. Гэта мог зрабіць з такой сілай, з такой грунтоўнасьцю толькі мастак пралетарыяту. І нездарма „Городок Окуров" зрабіўся мянушкай для ўсёй мяшчанскай павятовай Расіі. Паказваючы без падфарбоўваньня, не зьмяншаючы праўду жыцьця цяжкі быт акураўшчыны, кроў і бруд артамонаўскіх спраў, Аляксей Максімавіч разам і тым ніколі не навявае журбы. Ён малюе часамі патрасальныя кавалкі жыцьця з усім іх жахам, з ўсёй іх крывёй і брудам. Але ён-жа кліча на шлях рэвалюцыйнага сацыялістычнага абнаўленьня жыцьця.

Некаторых нэрвовых чытачоў творы Аляксея Максімавіча прыводзілі ў жах, а буржуазныя крытыкі пісалі аб тым, што творы Горкага нельга допускаць ні ў публічныя, ні ў сямейныя бібліатэкі. Былі філістэры, якія дзівіліся з таго, якім чынам Горкі атрымаў папулярнасьць, бо—падумайце!—ён на кожнай старонцы сваіх твораў заклікае да парушэньня законаў—боскіх і людзкіх. Апошняе правільна, бо Горкі прадстаўляе якраз тую клясу, якая прышла для таго, каб разбурыць старыя законы жыцьця і ўстанавіць новыя. Але, паўтараю, Аляксей Максімавіч ніколі не навявае журбы Ён ня быў зломлены ў жыцьцёвым змаганьні. Ён прышоў у грамадзкае жыцьцё і літаратуру, каб сказаць горкую праўду аб жыцьці і заявіць супраць рабскіх умоў жыцьця свой палкі пратэст, які гучыць са старонак кожнай кнігі. Гэты палкі пратэст, гэты кліч да барацьбы адрозьнівае яго ад іншых вялікіх мастакоў.

Талстой, які зрываў усе і ўсялякія маскі з буржуазна-памешчыцкага ладу, які выкрываў дваранства, чыноўную бюракратыю, капіталізм, разам з тым вёў „юродивую" пропаведзь непраціўленства, разам з тым клікаў з вялікага гістарычнага шляху пад цень рэакцыйнай утопіі.

Чэхаў афарбаваў свае бліскучыя творы пэсымізмам, журбой, сумнай марай, што, магчыма, праз сто-дзьвесьце год чалавеку будзе лепш.

Горкі прышоў у літаратуру як баец. Ён у кожны свой твор укладае свой баявы тэмпэрамант, як віхто іншы.

Адзін з крытыкаў 900-х гадоў дапытваўся, што гэта за дзіўная паэзія ў Горкага—нейкае пустое неба, неўкія птушкі, буравесьнікі і сокалы, чаму яны б'юцца? Што гэта за дзіўныя матывы? Хіба-ж ня лепш ранейшы стары матыў; „По небу полуночи ангел летел и тихую песню он пел". Гэта пісалася тады ўсур'ёз. Гэты мудры крытык ня ўлічваў аднэй маленькай акалічнасьці, ня ўлічваў таго, што ў краіне пачыналася рэвалюцыйнае хваляваньне, што парывы рэвалюцыі вымяталі ўсіх анёлаў і чарцей і з паэзіі. Краіна патрабавала новых песень. Іх сьпяваў Горкі, і песьня пра „Буравесьніка" падхоплена была ўсёй рэвалюцыйнай Расіяй, а Уладзімер Ільліч Ленін адзін са сваіх артыкулаў, прасьвечаных рэвалюцыі, упрыгожыў вобразам „Буравесьніка", закончыў яго словамі: „Хай мацней удгрыць бура".

Ніхто лепш самого Горкага ня выказаў яго падыходу да творчасьці, пагляду на задачы мастацкай творчасьці. У адным са сваіх лістоў Валерыю Брусаву ён пісаў наконт мабілізацыі студэнтаў у Кіеве: „Настрой у мяне, як у злога сабакі, зьбітага, узятага на ланцуг. Калі вы, судар", любіце чалавека, вы мяне, трэба думаць, зразумееце. Я, бачыце, адчуваю, што аддаваць студэнтаў у салдаты—подла, наглае злачынства супроць свабоды асобы, ідыёцкая мера абажраных уладай прахвостаў. У мяне кіпіць сэрца, і я быў-бы рад плюнуць ім у пахабныя морды чалавеканенавісьнікаў, якія будуць чытаць вашы „Северные цветы" і іх пахвальваць, як мяне хваляць. Гэта абураюча і агідна да нявыказнай злосьці на ўсё: нават на Буніна, якога люблю, але не разумею, як талент свой, дасканалы, як matавае срэбра, ён не адточыць, як нож, і ня пхне ім, куды трэба"...

Вось як Горкі глядзеў на сваю творчасьць. Некаторыя запытаюць, што гэта за дзіўны погляд на мастацкія творы, што за тэндэнцыйнасьць. Дазвольце мне, таварышы, у адказ на гэта выклікаць на момант адзін вялікі цень паэта іншых часоў—цень Дантэ. Праўда, мне можа папасьці за гэта ад некаторых суровых крытыкаў, бо ў Дантэ гутарка ідзе аб такіх даўно вышаўшых з нашага ўжытку рэчаў, як „Божественная комедия"—пекла, рай, чысьцілішча. Але Дантэ зьяўляецца аднэй з найвышэйшых вяршын мастацтва, разам з тым гэты твор наскрозь пранізаны палітычным запалам, які знайшоў свой выраз у асаблівым мастацкім пляне. Дантэ ўсіх сваіх палітычных ворагаў і ворагаў сваёй роднай Флёрэнцыі рассадзіў па кругох пекла, вынайшоў для іх усялякія пакуты. Аднаму з іх, папе Мікалаю III, ён выдумаў асабліва горкую і ганебную пакуту: пасадзіў яго ў агністую магілу галавой уніз і пяткамі ўверх. Нядрэннае мейсца для пап!

Дантэ з пагардай адносіўся да таго роду людзей, якія ні цёплыя ні халодныя, якія не любяць і не ненавідзяць, і прымусіў іх цені кружыцца, падобна да лістоў, гнаных ветрам у панурым прад'дзьверві пекла.

Хіба-ж не закляйміў і гэты род людзей і А. М. Горкі ў сваіх творах? Хіба не кляйміў іх у сваёй апошняй мастацкай эпапэі „Клім Самгін"? Бо А. М. Горкі, як і вялікі флёрэнтыйскі паэт, зьяўляецца перш за ўсё пісьменьнікам-байцом.

З таго часу, як А. М. Горкі пісаў свой ліст, мінула шмат год. З таго часу многае зьмянілася. Матавае срэбра бунінскага таленту, зношанае і пацёртае, упрыгожвае вэртэп эміграцыі. А Горкі, які ператварыў свой талент у бліщчасты клінок і накіраваў яго ў сэрца буржуазна-памешчыцкага ладу, стаў аднэй з сусьветных вялічынь і найлюбімым пісьменьнікам мільёнаў. (Аплёдысмэнты).

Свой гарачы пратэст супраць рабскіх умоў жыцьця А. М. Горкі выказаў спачатку ў рамантычнай форме, вывеўшы фігуры басякоў. Няпраўшто ён у той час быў ніцшэанцам, што гэтыя фігуры зьяўляюцца нейкімі расійскімі ніцшэанцамі. Нічога падобнага. Гэта былі мастацкія формулы, у якіх А. М. Горкі выказаў пратэст супроць усяго, што ламае і крышыць чалавечую асобу, пратэст супроць усяго, што яе абезасабляе. Але, зразумела, гэтыя фігуры ніяк не маглі быць пунктамі апоры для таго, каб зьмяніць стары лад жыцьця. І па меры таго, як разгортваецца рабочы рух, як А. М. Горкі цясьней зьвязваецца з гэтым рухам, зьяўляюцца іншыя фігуры, іншыя дзейныя асобы ў творах Горкага, якія паказваюць, як трэба зьмяняць парадак жыцьця: зьяўляюцца фігуры рэвалюцыйных пралетараў, зьяўляюцца рэвалюцыян ры-інтэлігенты, якія арганізавана змагаюцца за тое, каб зьмяніць рабскі парадак жыцьця. Гэтыя фігуры, якія клічуць на шлях барацьбы, на шлях зьмены існуючага грамадзкага парадку, ёсьць ужо ў раньніх творах Аляксея Максімавіча. Яны дадзены ў „Фоме Гордееве" і ў аповесьці „Трое", у далейшым у п'есе „Врагі" і асабліва ў аповесьці „Мать" і інш. творах.

У аповесьці „Мать" Горкі дае дасканалае палотно пралетарскай рэвалюцыйнай барацьбы, гэтай аповесьцю ён кліча на новы шлях. Зьяўленьне гэтай аповесьці. выклікала жорсткія нападкі на Горкага ня

толькі з боку буржуазных пісьменьнікаў, якія ня раз і да таго заяўлялі аб канцы Горкага,—яна выклікала нападкі і з боку сацыялдэмакратаў, з боку меншавікоў, з боку Пляханава. І толькі Ленін правільна і трапна з самага пачатку ацаніў гэтую аповесьць. Ён заявіў, што яна зьяўляецца адным з лепшых твораў Горкага і, сапраўды, мы бачым як у аповесьці мастацка і поўна разгортваецца малюнак арганізаванай палітычнай барацьбы рабочых. Мы бачым тут упяршыню ў мастацкай літаратуры вобразы рабочых-бальшавікоў. Мы бачым дасканалы вобраз маці, у якім Горкі паказаў усю сілу ідэі сацыялізму. Горкі буйнымі мастацкімі штрыхамі паказаў, як абуджаецца сьвядомасьць гэтай цёмнай і забітай жанчыны, як ідзе ў яе барацьба старых традыцый, звычак, старых мысляй і як яны ўступаюць сіле новых ідэй, ідэй сацыялізму. Горкі паказвае з усёй сілай і з усёй пераконанасьцю, як гэта цёмная і забітая жанчына ператвараецца паступова ў рэвалюцыйнага змагара за сацыялізм. Вобраз Пелагеі Нілаўны зьяўляецца адным з лепшых вобразаў Горкага, а яго твор „Мать" зьяўляецца лепшым творам з таго, што дала пралетарская рэвалюцыя да гэтага часу ў гэтым пляне,

Чым больш Аляксей Максімавіч зьвязваецца з рабочым рухам, тым больш ярка зьяўляецца асноўная рыса яго творчасьці—рэалізм. Горкі ня зьбірае дробязяй, не накапляе дэталяй дзеля іх саміх, не, ён жыцьцёвую праўду прапускае праз сваю мастацкую лябараторыю, „ён дае ў сваіх творах тыповыя характары і ў тыповых абставінах. Тое азначэньне, якое Энгельс даў Бальзаку, падыходзіць і да Горкага. І пра яго таксама можна сказаць, што многія творы даюць больш для разуменьня нашай эпохі, чым дзесяткі некаторых эканамічных і гістарычных работ, чым іная статыстыка.

Але творчасьць Горкага—рэалізм рэвалюцыйны. Ён не зьяўляецца проста быта-пісьменьнікам, як аб ім некаторыя гавораць. Ён ня проста фіксуе быт. Для яго ён ненавісны—гэты нярухомы, мяртвяшчы быт, які перашкаджае руху наперад, які аблытвае чалавечую асобу. Горкі кліча да зьмены быту, да зьмены ўмоў жыцьця. Ён кліча на барацьбу супроць ладу рабства і прыгнечаньня. Вось гэты заклік уперад, гэта імклівасьць, якую мы бачым у кожным творы А. М. Горкага, гэта і характэрызуе Горкага, як рэвалюцыйнага рэаліста, як мастака, які ня толькі малюе перад намі сапраўднасьць, але і кліча наперад, да рэвалюцыйнага вырашэньня яе супярэчнасьцяй.

Творчасьць Горкага—глыбока-нацыянальная. Калі чытаеш яго творы, то адчуваеш, што яны разыгрываюцца тут, на гэтай раўніне, дзе адбываліся вялікія падзеі нашай гісторыі. Ён паказвае рускіх людзей розных клясаў і станаў з усімі іх дадатнасьцямі і хібамі. У яго творах блішчаць шырокія прасторы Волгі, са старонак яго кніг льлецца руская песьня. Іменна льлецца, бо А. М, Горкі любіць песьню і сам быў недалёка ад таго, каб пасьпяваць. І таму, калі вы чытаеце яго кнігі, то вы гэту песьню чуеце.

Ніхто, як ён, зараз не валодае надзвычайным багацьцем расійскай мовы. І разам з тым творчасьць А. М. Горкага глыбока інтэрнацыянальная. Горкага любяць, ведаюць, чытаюць пралетары далёка за межамі нашай краіны. Яго творы і там пашыраюцца ў сотнях тысячаў экзэмпляраў-

Пралетары бачаць за гэтымі фігурамі волскіх купцоў і фабрыкантаў тую-ж сілу, якая душыць і прыгнятае іх ў сваёй краіне. У вобразах Пелагеі Нілаўны і Паўла яны пазнаюць сваё цела і кроў, свае мысьлі і імкненьні. Яны бачаць перад сабой страшнае дно капіталістычнага грамадзтва, якое з такой патрасальнай сілай паказаў А. М Горкі, куды скідваюцца абломкі людзкіх жыцьцяў, размолатых капіталізмам—абломкі вельмі шматлікія цяпер у эпоху крызіса. Яны падхапляюць кліч барацьбы за сацыялізм, які чуецца са старонак горкаўскіх кніг. І таму яны кажуць разам з намі: „Наш Горкі, наш!"

Ул. Іл. Ленін адносіўся з вялікай цяплынёй да А. М. Горкага. Ён заўсёды ўважліва сачыў за яго работай. У лістох ён даведаўся аб яго здароўі, аб тым, як ідуць яго літаратурныя работы. Ён дапамагаў Горкаму сваімі парадамі. Гэтыя адносіны Ільліча да А. М. Горкага былі прасякнуты вялікай прыязьню. І разам з тым, Уладзімер Ільліч першы ацаніў Горкага, як вялікага пралетарскага пісьменьніка. У супрацьвагу меншавікам, у супрацьвагу Троцкаму Уладзімер Ільліч першы заявіў наконт таго, што Горкі зьяўляецца вялізарнейшым аўтарытэтам у галіне пралетарскага мастацтва.

Леніна няма. Няма Леніна, якому А. М. Горкі прысьвяціў свае прыгожыя старонкі. Але жыва наша партыя, жыва справа Леніна, людзі, якіх ён выпесьціў. І ня дзіва, што цяпер імя вялікага пралетарскага пісьменьніка А. М. Горкага сплятаецца з імем таварыша Сталіна, правадыра пралетарскай рэвалюцыі, у якім увасабляецца ўсё лепшае, што ёсьць у нас. у партыі. (Бурныя аплёдысмэнты).

Горкі заўсёды выклікаў злобныя нападкі ворагаў, яны не маглі і ня могуць спакойна яго пераносіць. Яны прабавалі яго замоўчваць, а ён гаварыў так, што яго чулі ўсе. Яны абвясьцілі аб канцы Горкага, як мастака, а ён адказаў новымі і новымі дасканалымі творамі мастацтва. І цяпер калі Горкі знаходзіцца тут, сабакі эміграцыі брэшуць і далей па яго адрасе. Няхай сабе. Горкі абкружаны замілаваньнем і пашанай мільёнаў у нашай краіне і за яе межамі. Гэта замілаваньне—яму моцны шчыт, якога не праб'юць ніколі атручаныя стрэлы нянавісьці яго і нашых ворагаў. (Аплёдысмэнты)

Мне ўспамінаецца зараз адна з прыгожых легенд раньняга Горкага—яго легенда пра Данко. Людзі шукалі шлях з цемры і багны да новага жыцьця; яны блукалі. І вось юнак Данко, сэрца якога гарэла любасьцю да людзей, парашыў ім дапамагчы. Ён вырваў сваё сэрца, поўнае любасьці падняў яго высака над галавой і яно зазьзяла ярка, як сонца, і асьвятліла людзям шлях. Так Горкі, яго творы, у якія ён улажыў усю кроў свайго сэрца, усю нянавісьць да прыгнятальнікаў, усё замілаваньне і вернасьць да прыгнечаных, яны зьзяюць яркім і непагасным сьвятлом, асьвятляюць жыцьцёвы шлях, клічуць да новага ладу, клічуць да барацьбы за сацыялізм.

А. М. Горкі жыве, працуе і змагаецца разам з намі. Ён прымае ўдзел у нашай агульнай рабоце, за камунізм. Яго творчасьць надзвычай разнастайная: ён працягвае сваю мастацкую творчасьць, ён выступае і з публіцыстычнымі артыкуламі, ён праявіў свой пачын у такіх буйных рэчах, як гісторыя заводаў і гісторыя грамадзянскай вайны. Ніяк нельга

забыць і таго выдатнага пачыну, які А. М. Горкі разам з Ромэн Ролянам, Драйзерам і Анры Барбюсам, якога мы з радасьцю вітаем на нашым сёнешнім сходзе (бурныя аплёдысмэнты), праявіў па скліканьню антываеннага кангрэсу і аб'яднаньні сіл лепшай часткі інтэлігенцыі ўсіх краін і рабочае клясы ў мэтах барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны.

Мы ад усяго сэрца жадаем А. М. працягваць гэтую прыгожую, самаадданую і поўную энэргіі дзейнасьць.

Дазвольце выказаць пажаданьне і ўпэўненасьць, што А. М. Горкі, які сьвежы, бадзёры, малады душой, як другая пяцігодка (бурныя аплёдысмэнты, якія пераходзяць у авацыю), убачыць нашу краіну вызваленай ад апошніх рэштак акураўскай нечысьці, у поўным росквіце сацыялістычнай культуры, для якой ён працуе, не пакладаючы рук, убачыць гэта наш дарагі і любы А. М. Горкі. (Бурныя аплёдысмэнты).

С. КУНІЦКІ

# ЗБОРНІК ВЕРШАЎ ІВ. ШАПАВАЛАВА „Товарищ“

Шапавалаў пачаў друкавацца два-тры годы таму назад. Гэта новы аўтар, новы паэт, які падымае свой звонкі голас з стройных радоў нашай слаўнай Чырвонай арміі, з радоў стойкіх дзяржынцаў—верных вартаўнікоў меж дыктатуры пралетарыяту.

Рэцэнзуемы зборнік вершаў „Товарищ“—гэта першы зборнік І. Шапавалава, гэта першая спроба маладога аўтара ў галіне мастацкай літаратуры. Гэты зборнік невялікі па сваім памеры: ён уключае ў сябе ўсяго дванаццаць невялікіх вершаў.

Аднак, ня гледзячы на тое, што гэты зборнік зьяўляецца першай спробай аўтара, што ён невялікі па сваім памеры—ён заслугоўвае пэўнай увагі як з ідэёвага, так і з мастацкага боку, ён падае нам акрэсьленае дачыненьне маладога паэты да рэчаіснасьці, ён ставіць маладога аўтара на пэўны шлях літаратурнага працэсу.

На кожную жыцьцёвую зьяву, на кожны факт І. Шапавалаў кідае зусім яркія, зусім выразныя праменьні. Да кожнага факту, да кожнай зьявы ў яго зусім выразныя клясавыя адносіны. Для яго рэч, зьявы ня снуюць наогул.

У кожнай рэчы ён бачыць актыўны бок.

Кожны аб'ект творчасьці І. Шапавалава бярэцца ў канкрэтным яго дачыненьні да сучаснага сацыялістычнага будаўніцтва.

Калі І. Шапавалаў гаворыць аб літаратуры, дык перш за ўсё ён літаратуру разглядае як вострую зброю ў барацьбе клясаў:

„Литература
 не книжечки просто,
не просто стишки,
 сказочки или быль.
Это—
 одно из самых острых
орудий
 классовой борьбы“.

Для яго мастацкае слова гэта не „побракушки“ „а снарады ў кровавым баю“.

Гэты невялікі зборнік вершаў „Твварищ“. паказвае, што яго аўтар умее ў аб'екце творчасьці знайсьці галоўнае, цэнтральнае, умее на гэтым цэнтральным завастрыць увагу чытача, адлюстраваць галоўныя рысы аб'екту.

І. Шапавалаў умее ў невялікім знайсьці актуальнае, у звычайным, „штодзённым" падкрэсьліць клясавую сутнасьць, умее за словам бачыць клясавы зьмест.

У гэтых адносінах зьяўляецца характэрным яго верш „Товарищ", якім імянуецца і адкрываецца зборнік.

Слова „таварыш" у нас часта ў штодзённым жыцьці ставіцца ў вельмі вузкія рамкі, часта ў гэта слова ўкладаецца няпоўны, альбо зусім іншы, сацыяльны зьмест. Пад гэтым словам часта разумеецца сяброўства аднагоднасьць,—у незалежнасьці ад клясавай сутнасьці гэтага слова „товарищ".

Зусім інакш падыходзіць да гэтага слова І. Шапавалаў. Ён да гэтага слова падыходзіць перш за ўсё, як да выражэньня пэўнай клясавай сутнасьці, ён за гэтым словам бачыць тую клясавую барацьбу, у выніку якой нарадзілася слова „таварыш".

„. . . . . . . . . за право
товарищем
звaться
Жили,
боролись,
гибли,
дрались
Наши
отцы
и братья".

Ён гэтаму слову надае глыбокі клясавы зьмест.
І зусім правільна заяўляе малады паэт:

„Пока мир
пополам расколот,
„Товарищем"
назову я
не всякого
И не всякому
себя так звать
позволю."

І. Шапавалаў кожную рэч разглядае з пункту гледжаньня нашай рэвалюцыі, паколькі тая, ці іншая рэч зьяўляецца актыўным фактарам у працэсе гэтай рэвалюцыі. Так ставіць ён пытаньні і ў адносінах да чалавека. Для яго чалавек выяўляе свой сацыяльны твар толькі ў адносінах да рэвалюцыі, у адносінах да соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтай рысай прасякнуты ўсе вершы зборніка „Товарищ".

У вершы „Мы беспартийные... наше дело—сторона" І. Шапавалаў завастрае ўвагу на выразных адносінах да рэвалюцыі, да сацыялістычнага будаўніцтва. Ён ставіць у гэтым вершы патаньне чотка: „враги пятилетки—лично наши враги".

Пралетар на вышыні сацыялістычнага будаўніцтва, у абставінах клясавай барацьбы павінен быць клясава пільным, ён павінен да ўсяго адносіцца па партыйнаму, павінен быць адказным і за сябе і за завод і рэвалюцыю ў цэлым. Вось сэнс вершаў „Мы беспартийные... наше дело— сторона“.

„Беспартийнасти
        отшвырни лазейку.
На этой земле
      место свое,
в конце концоў,
        разглазей-ка.
Пусть
        слизь и плесень
        шипит отчаянно,
Враг
        не скромсан,
Пятилетку
    берет
    на прыцел он.
Ты—
        пролетарий.
Так
        будь добр
        отвечай
        и за себя,
        и за завод,
        и
          за
            пролетарскую
              революцию
                                в целом“.

З пункту гледжаньня пралетарскай рэвалюцыі І. Шапавалаў ацэньвае і самагубства Маякоўскага у вершы „По какому праву?“ Да самагубства Маякоўскага ён падыходзіць не як да сьмерці чалавечага арганізма ў біялёгічным разуменьні, а як да сьмерці клясавага чалавека, да сьмерці, якая вырвала з радоў пралетарскай рэвалюцыі адважнага барацьбіта за гэту рэвалюцыю на мастацкім фронце. Гэты верш прасякнуты глыбокім лірызмам. У гэтым вершы поэт, зварочваючыся да Маякоўскага, гаворыць, што Маякоўскі адабраў ад рэвалюцыі не сваё жыцьцё, а адабраў барацьбіта за рэвалюцыю.

„... какое...
Какое
        имел ты право
                у революции
себя отнять??.“

Якая функцыянальная значнасьць зборніку „Товарищ“, калі падыйсьці да яго з пункту гледжаньня мабілізацыі ўвагі працоўных мас нашай краіны на абарону пралетарскай рэвалюцыі, на абарону дыктатуры пралетарыяту? Гэта пытаньне мы ў правох ставіць перад кожным нашым савецкім пісьменьнікам, гэта пытаньне мы ў правох ставіць тым больш перад І. Шапавалавым, як перад аўтарам, які ідзе ў літаратуру з радоў Чырвонай арміі.

Зборнік „Товарищ“ цалкам прасякнуты рэвалюцыйным пафасам, кожны верш гэтага зборніка—ёсьць заклік на барацьбу за пяцігодку, на барацьбу за пралетарскую рэвалюцыю, ён у гэтым кірунку мабілізуе энэргію і ўвагу чытача. Ён зусім выразна арыентуе чытача, хто вораг рэвалюцыі, за што і з кім патрэбна весьці рашучую барацьбу на карысьць ажыцьцяўленьня ідэй сацыялізму. Менавіта такая функцыянальная значымасьць гэтага невялікага зборніку „Товарищ“ у цэлым.

Калі гаворыць І. Шапавалаў аб краіне дыктатуры пралетарыяту, аб самым пралетарыяце, як клясе,—ён гаворыць пра яго як аб вялізарнай сіле, якая ўзьнялася на вяршыню гістарычнага працэсу, якая перамагае і пераможа на гэтым шляху.

У вершы „Слушайте вы“, зварачаючыся да ворагаў пралетарскай рэвалюцыі, поэт гаворыць:

„Слушайте... Вы...
Гадзюки ползучые!
Пока
пуля
Не заткнула вам уши,
слушайте...
Вы...
. . . . . . . . . . . . . .
Вождь говорит
Не смеха ради.
На язык пулеметов
рэчь его
переведет Клим.
„Чужой земли
не хотим
ни пяди...
Но...
и своей земли
никому
не отдадим“
С вами
Мы
говорим,
Слышите!
Мы—
побеждающий класс“.

Паэта з гонарам гаворыць аб „побеждающем классе", ён упэўнен у бальшавіцкую сілу гэтай клясы. Ён толькі гэтай клясе імкнецца аддаць сваё першае мастацкае слова, за ідэі толькі гэтай клясы ён выступае са сваім першым зборнікам.

У вершы „Поэтам ЛОКАФ" І. Шапавалаў заяўляе:

„Мы служим классу.
Только он один
Судья стиха
и рифмы крепкой."

За ідэю гэтай клясы паэт заклікае змагацца і паэтаў ЛАЧАФ:

„Нас класс родил,
спаяла—ВКП.
Неотделимы мы
от скатки и винтовки.
Про годы войн
гражданских будем петь,
петь о поэзии
стрэлковой подготовки.
Чтобы поэзия Локаф
картечью строф
разила как гранатой".

Гаворачы аб паэзіі зборніка „Товарищ", як аб дадатнай зьяве, як аб актыўным літаратурным фактары ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва, у працэсе перарробкі псыхікі чалавека, не адмаўляючы паэтычных здольнасьцяй маладога паэта, нельга не заўважыць, што ў І. Шапавалава ў рэцэнзуемых вершах маецца пэўная небясьпечная рыса, якая для далейшай яго творчай практыкі можа зьявіцца значнай перашкодай, можа прывесьці на няправільныя пазыцыі маладога аўтара. Гэта рыса мае на сабе літфронтаўскую афарбоўку.

У чым гэта выражаецца?

Гэта выражаецца ў тым, што малады паэт ня імкнецца тую, ці іншую рэч, зьяву ператварыць у поўнакроўны вобраз, даць аб сваім творчым аб'екце канкрэтнае ўяўленьне, раскрыць па-мастацку сувязь, узаемадзеяньне аб'ектаў з рэчаіснасьцю, а ён толькі абмяжоўваецца падачай агульнага ўяўленьня аб аб'екце, апавіваючы гэты аб'ект у лёзунговую форму. Інакш кажучы, паэт пакідае ў баку унутраную складанасьць аб'екту.

У адным месцы ён проста і заяўляе:

„Нам нужно
Искусство ведущее в бой,
а не копающееся
в психологическом соре".

Гэта па сутнасьці літфронтаўская рыса ў паэзіі І. Шапавалава выцякае з няўдалай яго вучобы ў Маякоўскага. Паэта да Маякоўскага падыходзіць ня крытычна. Ён яго ўспрымае цалкам. Побач з каштоўным бокам

творчасьці Маякоўскага,—яго рэвалюцыйнасьцю, уменьнем змагацца з ворагам,—І. Шапавалаў успрымае і такія бакі творчасьці Маякоўскага, як адмаўленьне псыхалёгізму мастацтва, лёзунговасьць і інш.

У Маякоўскага можна і патрэбна вучыцца, але патрэбна да яго падыходзіць крытычна. Патрэбна добра разьмяжоўваць Маякоўскага—рэвалюцыянэра ад Маякоўскага—дробна-буржуазнага бунтара, анархіста.

У далейшай творчай практыцы І. Шапавалаву неабходна ісьці па лініі большага паглыбленьня ва ўнутраную складанасьць аб'екту, па лініі стварэньня поўнацэннага вобразу, па лініі перамаганьня налётаў літфронтаўшчыны, захоўваючы рэвалюцыйнасьць, баявізм, клясавую выразнасьць вершу.

У заключэньне патрэбна адзначыць на досыць удалае мастацка-тэхнічнае афармленьне кніжкі. Мастак В. Сокалаў удала схапіў зьмест кніжкі, яе стылёвыя асаблівасьці. Мастацкае афармленьне дапаўняе і ўзмацняе рытміку і дынаміку вершу.



Н КАБАКОЎ

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

Ройтэ Армей—зборнік, ДзВБ, яўсэктар, выданьне яўсэкцыі БелЛАЧАФ, 1932 г.

Яўрэйская літаратура вельмі многа завінавацілася перад Чырвонай арміяй. Да гэтага часу ў яўрэйскай літаратуры ня толькі БССР, але СССР абаронная тэматыка не займае належнага месца. Гэта зьяўляецца вялікім недахопам, вялікай прагалінай, асабліва зараз, калі небясьпека вайны супраць СССР надзвычайна вялікая.

Мы з вялікай радасьцю адзначаем выпуск першага зборніка на яўрэйскай мове „Ройтэ Армей" тым больш, што ён зьяўляецца першым зборнікам яўрэйскай сэкцыі БелЛАЧАФ. Зборнік пачынаецца аддзелам „11-га ліпеня—дванаццацігодзьдзе", за тым ідуць аддзелы „Чырвоная армія сёньня", „Грамадзянская вайна", „Абароназдольнасьць краіны". Такім чынам, зборнік ахапляе цэлы комплекс тэм, якія адлюстроўваюць геаічную барацьбу Чырвонай арміі за дыктатуру пралетарыяту, яе геаічную работу па баявой падрыхтоўцы.

У зборніку сабраны творы нашых яўрэйскіх пісьменьнікаў БССР на вайскова-абаронную тэму. Гэты зборнік падкрэсьлівае той паварот да чырвонаармейскай тэматыкі, які адбываецца сярод яўрэйскіх пісьменьнікаў.

З вершаў, якія зьмешчаны ў зборніку, самымі моцнымі зьяўляюцца ўрыўкі з паэмы Ізі Харыка „Менскія балоты", чырвонаармейскія вершы З. Аксэльрода і Гольдмана. У кароткіх сьціслых радках Харык перадае нам гераізм „гарачых хлапцоў"—камуністаў і камсамольцаў, якія ішлі

„На Польшчу на паноў і шляхту".

У Харыка адточаная, эмацыянальна-насычаная страфа, кожны радок малюе з вялізарнай сілай барацьбу за чырвоны Менск:

„У пустых лясох, у лясох беларускіх
Хто сёньня будзе на варце стаяць?
Сэрца сёньня з агнём пацалуецца,—
Сёньня ў блакітную ноч..."

Чырвонаармейскія вершы Аксэльрода характэрны сваёй бадзёрасьцю жыцьцярадаснасьцю; яны вызначаюцца сваёй рытмічнасьцю, мілагучнасьцю. У вершы „Чырвонаармейскі суботнік" Аксэльрод малюе тую радасьць, той вялікі запал, які адчуваюць чырвонаармейцы на суботніку:

Праца наша не загіне дарма,
Стома ясная па целе пройдзе...

Ідуць гэтыя чырвонаармейцы з суботніка здаровымі, бадзёрымі і пяюць пра тое, „што ворагі на вуліцы згінуць". Гэтымі радаснымі адчуваньнямі сябе, як чырвонаармейца, прасякнуты ўсе вершы З. Аксэльрода.

Верш маладога Айзіка Кагана „На клёне запісана“ перапоўнены нянавісьцю да белапалякаў, якія на „тым баку Бярозы“ забілі маці і яе сына—чырвонага камандзіра. Аднак трэба сказаць, што Каган яшчэ не авалодаў тэхнікай вершу і гэта да некаторай ступені зьніжае каштоўнасьць яго. Вершы Л. Талалая і Бацьвініка ствараюць моцнае ўражаньне, мабілізуюць на ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны саветаў, Бацьвінік піша пра „чырвоныя абозы“ наступнае:

А калі краіна пакліча,
Калі краіне патрэбна будзе—
Гэтыя-ж абозы
Будуць першымі
У баёх...

Але і ў Бацьвініка і ў другога маладога паэта Барсука не хапае яшчэ мастацкіх сродкаў, яны не навучыліся яшчэ даваць поўнакроўны мастацкі вобраз. Маладым паэтам патрэбна ўпартая вучоба.

Проза зборніка слабейшая за паэзію. Нарысы Дубравіцкага „Эпізоды“ і „Лі расказвае“, Вайнгаўза „Пад гэтым сьцягам мы пераможам“ і „Вэтэран грамадзянскай вайны“ перадаюць нам успаміны пра грамадзянскую вайну, цікавыя, праўдападобныя факты, але мастацкі ня ўзьнятыя на належную вышыню. Няма тут ніводнага больш-менш удалага тыпу, няма ніводнага партрэту. Героі нарысаў ня выяўляюцца праз іх дзеяньні, а толькі апавядаюць пра сябе, і таму ў аўтара пануе ўвесь час дыялёг, маналёг. („Лі расказвае“—Дубравіцкага і „Вэтэран грамадзянскай вайны“). Урывак з кнігі Кульбака „Зэмельянцы“ паказвае, як саматужнікі сустракаюць часткі манэўруючай Чырвонай арміі. Апавяданьне Элі Кагана напісана ў жывой гумарыстычнай форме і чытаецца вельмі лёгка. Гэта—лепшае са зборніка. У зборніку таксама зьмешчаны некаторыя эпізоды з п'есы Аронэса „Партызаны“. Гэтая п'еса ставілася ў Яўрэйскім дзяржаўным тэатры. Эпізоды ўдала малююць гераічную барацьбу партызан за савецкую ўладу, падаюць вельмі цікавыя тыпы чырвоных партызан, як Эстрын, Аўрэмэлэ-гарбаты ды інш. Выгодна вылучаюцца ўдалыя фэльетоны Гарадокера пра абароназдольнасьць краіны.

Зборнік „Ройтэ Армей“ сьведчыць пра тое, што мы маем пэўны паварот савецкіх яўрэйскіх пісьменьнікаў да абароннай тэматыкі, да тэматыкі ўзмацненьня абароназдольнасьці савецкай краіны. Мы маем цяпер паэтаў, якія за апошні час шмат ужо напісалі пра Чырвоную армію (Верамыкін А. Каган, Элі Каган і інш.).

Трэба, каб нашы пісьменьнікі ў далейшым яшчэ больш узмацнілі сваю ўвагу да абароннай тэматыкі, яшчэ шчыльней зьвязаліся з Чырвонай арміяй і далі вялікія мастацкія палотнішчы, якія былі-б варты нашай гераічнай рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

В. СЯЛІВАНАВА

# У ДАПАМОГУ ПІСЬМЕНЬНІКУ-ЎДАРНІКУ

1

Перад пачынаючым пісьменьнікам заўсёды паўстае шэраг складаных творчых пытаньняў, ад своечасовага, правільнага і ўдумлівага вырашэньня якіх залежыць характар творчага разьвіцьця маладога пісьменьніка. Ударнікі, што ідуць у літаратуру, патрабуюць самае пільнае ўвагі, сыстэматычнае дапамогі і кіраўніцтва. Яны чакаюць ясных адказаў на шэраг спэцыфічна-літаратурных пытаньняў, пытаньняў арганізацыі творчай работы і г. д.

Крытыка прадукцыі прышоўшых у літаратуру ударнікаў—рэч бясспрэчна патрэбная, але мала займацца разглядам ужо напісаных твораў, мала займацца канстатаваньнем наяўнасьці ў гэтых творах эмпірызму ды схэматызму, мала на ўсе лады скланяць тэарэтычныя прынцыпы дыялектычнага матэрыялізму. Нашыя-ж крытычныя артыкулы ў большасьці знаёмяць чытача з агульным характарам творчасьці ўдарнікаў, што прыйшлі ў літаратуру, і мала дапамагаюць аўтарам у іх індывідуальнай творчай рабоце.

Сачыць за працэсам работы маладога аўтара над мастацкім творам, пачынаючы ад пляну, „замыслу“ і канчаючы работай над дэталямі, дапамагчы вырашыць шэраг практычна-творчых пытаньняў, параіць прачытаць той альбо іншы матар'ял, каб аўтар больш глыбока змог асэнсіць і вывучыць тыя пытаньні і факты, над якімі ён працуе—гэта павінен рабіць аддзел кансультацыі кожнага часопісу, кожны кіраўнік літаратурным гуртком.

Звычайна крытык, „павучаючы“ маладога аўтара, глыбокадумна выпісвае: „Раздвоение единого и познание противоречивых частей его есть суть диалектики“. Малады аўтар уважліва слухае і нэрвова пытаецца, а як-жа працаваць над мастацкім творам, як арганізоўваць матар'ял, як зрабіць жывымі вобразы?! Крытык маўчыць, выціскаючы на ілбу маршчыны і рыхтуе наступную цытату.

А пытаньняў шмат, іх задаюць ужо моцна, настойліва. Гэты артыкул ня мае на мэце даць які-небудзь закончаны рэцэпт таго, як трэба пісаць мастацкі твор. Ён закранае самую нязначную частку шматлікіх творчых пытаньняў, ён спыняецца на асноўных прынцыпах творчае работы пісьменьніка і хоча дапамагчы гэтым маладому аўтару разьвязаць тыя пытаньні, якія шточас рупяць, хвалююць яго.

## 2

Пытаньні, якія задаюцца рабочымі-ўдарнікамі, ударнікамі-чырвонаармейцамі, што прыйшлі ў літаратуру, часьцей за ўсё зьяўляюцца пытаньнямі літаратурна-тэарэтычнага і практычна-творчага парадку. Практыка работы з маладымі кадрамі паказала, што шмат-хто з іх, бяручыся за работу над мастацкім творам, вельмі няясна ўяўляе сабе сутнасьць і характар тае справы, у галіне якое ён пачынае працаваць. Маладым аўтарам часам не хапае самых элемэнтарных ведаў у галіне тэорыі літаратуры, не хапае акрэсьленага разуменьня самой спэцыфікі літаратуры якой вызначаецца і своеасаблівы характар творчае работы пісьменьніка. А кожная галіна творчае дзейнасьці чалавека мае своеасаблівы характар работы—тэхніку свайго рамяства. Кампазытар, напрыклад, ня можа стварыць музычнага твору, ня ведаючы гармоніі, тэорыі музыкі, ня ведаючы разнастайнага гучаньня акордаў, спалучэньня гукаў, танальнасьці іх, ня выпрацаваўшы ў сябе тонкага адчуваньня рытму і г. д. Пісьменьнік, якім-бы таленавітым ён ня быў, ніколі ня зможа даць твору вялікае пазнавальнае і мастацкае сілы бяз яснага разуменьня таго, што літаратура зьяўляецца спэцыфічнай формай ідэолёгіі, не разумеючы характару гэтае спэцыфічнасьці, не авалодаўшы ёю.

А працэс аўладаньня літаратурным рамяством рэч складаная, якая патрабуе ўпартае сыстэматычнае творчае практыкі, заўсёднага ўзбагачваньня сьветапогляду, паглыбленае работы над асэнсоўваньнем гісторыі літаратуры, работы над падвышэньнем свайго культурнага ўзроўню.

Найбольш характэрныя пытаньні, якія вельмі часта можна пачуць ад большасьці маладых аўтараў—гэта пытаньні: як выбраць тэму, як арганізоўваць матар'ял вакол ідэі свайго твору, якія прынцыпы кладзе аўтар у аснову работы над мастацкім вобразам, што разумець пад формай вершу і як над ёй працаваць. І як-жа ўрэшце пісаць мастацкі твор—пытае малады аўтар.

Калі гаварыць у творы пра шмат-якія здарэньні, факты нашае багатае рэчаіснасьці—кажуць эмпірызм, папрабуй гаварыць пра некаторыя з гэтых фактаў, вылучы толькі частку з іх—скажуць вузкасьць сьветапогляду, недастатковае аўладаньне дыялектычным мэтадам, бо ён (мэтад) патрабуе паказваць зьявы ў іх поўнасьці і ўзаемадзеяньні, Давайце пра гэта і пагаворым.

Наша рэчаіснасьць багатая, багатая творчай дзейнасьцю чалавека, дзейнасьцю мэтанакіраванай, вялікай ідэёвай сілы. Кожны творчы дзень ставіць новыя праблемы, прымушае задумацца над складанымі працэсамі ў жыцьці краіны, кожны дзень гаворыць фактамі новых перамог. Усё гэта можна бачыць, пра гэта можна гаварыць, пісаць, але пісаць можна па-рознаму.

Перад намі шэраг кніжок з самымі разнастайнымі тэмамі. Адны з іх апісваюць вытворчасьць, творчую дзейнасьць у ёй людзей, новыя адносіны да працы, сацыялістычныя мэтады работы, выхаваньне новага

чалавека, стварэньне новае маралі, этыкі, побыту і г. д. Ёсьць багата кніжок пра калгасы, пра Чырвоную армію, пра выхаваньне ў ёй сьвядомага байца за сацыялістычную бацькаўшчыну, пра жыцьцё Чырвонае арміі, сувязь яе з агульнымі працэсамі сацыялістычнага будаўніцтва, палітвучобу ў Чырвонай арміі, аўладаньне вайсковай тэхнікай, складанымі формамі бою і г. д. Але ў адных кніжках гэтыя праблемы падаюцца ў форме навуковых дасьледаў, агітацыйна-прапагандысцкіх брашур, публіцыстычных артыкулаў. У другіх яны падаюцца ў форме мастацкага твору, нарысу, апавяданьня, аповесьці. Пачынаючаму пісьменьніку трэба ясна і дакладна ўяўляць сабе, у чым-жа прынцыповая розьніца між мастацкай і так званай публіцыстычнай літаратураю, бо ня ведаючы гэтага асноўнага тэарытычнага палажэньня, нельга гаварыць пра колькі-небудзь сур'ёзную сьвядомую творчую работу маладога пісьменьніка.

І публіцыст і пісьменьнік маюць справу з жывою рэчаіснасьцю і фактамі, працэсамі, з ідэямі, з людзьмі. І пісьменьнік-мастак і публіцыст вывучаюць рэчаіснасьць, ідэёва асэнсоўваюць яе, адлюстроўваюць шматгранныя жыцьцёвыя зьявы з пункту гледжаньня свайго сьветапогляду, ідэёва ўплываюць на чытача. Аднак, кожны з гэтых відаў літаратуры мае сваю спэцыфічнасьць. Гэтая розьніца літаратуры мастацкае ад немастацкае (публіцыстычнае ідзе па лініі спэцыфічнага спосабу выражэньня, своеасаблівага спосабу арганізацыі і падачы ідэёва-ўсьвядомленых, вывучаных фактаў аб'ектыўнае рэчаіснасьці. Публіцыст даводзіць ідэю свайго твору шляхам абстрактна-лёгічных катэгорый, ці, як кажуць, у форме сілёгізмаў. Мастак—матар'ял аб'ектыўнае рэчаіснасьці апранае ў канкрэтныя эмацыянальна-насычаныя вобразы, праз іх падае і разьвівае ідэю свайго твору, імі напаўняючы кожны куток яго, кожны мастацкі малюнак. Публіцыст разьвівае сваю думку шляхам **паняцьцяў**. Мастак праз **паказ дзейнасьці мастацкіх вобразаў**, пэрсаніфікаваных вобразаў людзей, рэчаў, праз сакавітую вобразную эмацыянальна-дзейную мову—ускрывае складаныя комплексы зьяў рэчаіснасьці.

У чым-жа сутнасьць мастацкага вобразу? Якія істотныя ўласьцівасьці яго?

У сваіх літаратурных нататках стары крытык Бялінскі, разглядаючы адно з апавяданьняў, зьмешчанае ў „Современнике" за 1838 год, піша так:

„В этих немногих словах характеризовано целое сословие, весь лакейский люд с его образом мыслей и его образом выражения; и кроме этого, в этих немногих словах **выражено одно лицо, которое, будучи похоже на множество лиц этого разряда, в то же время похоже только на самого себя, и больше ни на кого**" (падкрэсьлена мною—*В. С.*).

У гэтай неразгорнутай думцы, можа і ня зусім яснай, усё-ж такі ўлоўлена істотная характэрная асаблівасьць мастацкага вобразу—яго **тыповасьць і канкрэтнасьць**. Сапраўды, толькі той вобраз будзе мастацкі поўным, **выхаваўча дзейным**, толькі **той вобраз**, раз

урэзаўшыся ў памяць, пакіне ў ёй глыбокі сьлед, толькі той вобраз гаворачы словамі Бухарына „будзе стаяць у вякох, як манумэнтальны помнік"—які пры ўсёй сваёй падкрэсьленай індывідуальнасьці зьявіцца ўвасабленьнем характэрных рыс, асаблівасьцяй пэўнага пласту грамадзтва, які сынтэзуе ў сябе ідэёва—псыхолёгічны, палітыка-культурны твар пэўнае катэгорыі людзей.

М. Горкі ў гутарцы з пісьменьнікамі—ўдарнікамі, засьцерагаючы іх ад вобразу-схэмы, ад простага фіксатарства, гаворыць, што літаратурныя вобразы, тыпы „будуюцца вядома не партрэтна, не бяручь пэўнага якога-небудзь чалавека, а бяручь трыццаць-пяцьдзесят чалавек аднае лініі, аднага раду, адных настрояў і з іх утвараюць Абломава, Анегіна, Фауста, Гамлета, Атэла. Усё гэта абагуленыя тыпы". У Горкага ёсьць надзвычай трапнае мейсца, дзе ён гаворыць, што „мастацкая літаратура не падначальваецца прыватнаму факту, яна—вышэй за яго"... што „літаратурны факт—выцяжка з шэрагу аднародных фактаў, ён сынтэзаваны, і толькі ён і ёсьць твор сапраўды мастацкі, калі правільна адлюстроўваецца цэлы шэраг паўторных зьяў рэчаіснасьці ўаднэй зьяве".

Такім чынам, паўстае складанае пытаньне аб творчай рабоце пісьменьніка і зьвязаныя з ім пытаньні практычна-творчага парадку.

Зусім зразумела, што ў аснове творчае работы пісьменьніка ляжыць не інтуіцыя, не натхненьне ў шчасьлівыя часы, а сьвядомы працэс пазнаньня рэчаіснасьці праз актыўна-дзейныя адносіны пісьменьніка да яе. Мала, спадзяючыся на свае творчыя здольнасьці, узяць кавалак паперы, аловак і запісаць бачаныя, а можа і перажытыя калі-небудзь факты, узнавіць свае ўражаньні, думкі. Гэта яшчэ ня дасьць мастацтва твору, гэта яшчэ далёка ад сапраўднае творчае работы пісьменьніка, якая патрабуе ня простага запісу, фіксацыі ўспрынятага, а патрабуе складанае руплівае работы над сырым фактычным матар'ялам, асьвятленьня яго пэрспэктыўнай ідэяй разьвіцьця, арганізацыі гэтага прафільтраўнага фактычнага матар'ялу ў мастацкі твор.

І сапраўды, перш чым узяцца за паперу, перш. чым узяцца за ўнутраную арганізацыю мастацкага твору (распрацоўка фабулы, стварэньне і дэталізацыя вобразаў, партрэтаў, пэйзажаў), пісьменьнік прарабляе вялікую папярэднюю творчую работу. Гэтая работа ідзе па лініі зьбіраньня матар'ялу, уважлівага вывучэньня фактаў сучаснасьці і гісторыі, вывучэньня эканомікі, ідэй, побыту, сацыяльных тыпаў, спэцыфічных форм клясавае барацьбы ў канкрэтны гістарычны пэрыод. І толькі пасьля гэтае, трэба сказаць, складанае творчае работы, пісьменьнік, які сумленна, шчыра і сьвядома ставіцца да свае работы, які сапраўды „выношвае" свае вобразы—зможа даць твор глыбокае пазнаваўчае і мастацкае сілы.

Ня так даўно мне ў рукі патрапіў твор маладога чырвонаармейскага пісьменьніка Багдана „Хоць пяць, але не адступаць". У гэтым творы апісваюцца манэўры, сьвядомая дысцыплінаваная маса барацьбітоў-чырвонаармейцаў, падаецца тып камандзіра—арганізатара, таварыша, кіраўніка. Мы ня будзем спыняцца на дэталёвым разглядзе гэтага апавяданьня, гэта будзе зроблена ў спэцыяльным кансультацыйным артыкуле, але

варта крыху суняцца і на ім, бо хваробы гэтага апавяданьня зьяўляюцца тыповымі хваробамі шэрагу твораў, напісаных пісьменьнікамі-ўдарнікамі.

Ня гледзячы на шэраг удалых мясьцін, гэты твор мае асноўны недахоп. Гэтае якраз тое, што аўтар далей за апісаньне толькі тых фактаў, якія ён сам непасрэдна бачыў і перажыў, ня ідзе. Аўтару не хапае вось гэтае творчае работы над матар'ялам, паглыбленага вывучэньня яго: таму ў апавяданьні няма ярка-вызначанае сужэтнае лініі, таму тут надзвычайна спрошчаная, прымітыўная кампазыцыя, таму асобныя факты роста нанізваюцца адзін на другі, а не арганізаваны ў жывы арганізм мастацкага твору з паўнакроўнымі вобразамі. А на тое, каб распрацаваць такую складаную тэму,—даць сапраўды вобраз якасна новага чалавека, камандзіра, чырвонаармейца, барацьбіта за сацыялістычную бацькаўшчыну, трэба ясна і ва ўсёй канкрэтнасьці ўяўляць сабе сутнасьць мінулага, царскае арміі. Пра гэта, бясспрэчна, можна ня пісаць, але ведаць гэта трэба, бо толькі добра ведаючы мінулае, можна глыбока зразумець і пераканаўча паказаць усю веліч сучаснага. Толькі пры такой творчай рабоце можна пашырыць кола сваіх разуменьняў, набыць веды факту, паступова паглыбіць свой сьветапогляд, паступова ўзбагаціць сваю творчую культуру, без якое пісьменьнік—нуль.

Прачытайце паэму польскага пралетарскага пісьменьніка Бруно Ясенскага „Слова пра Якуба Шэлю" (дарэчы сказаць, надзвычай добра перакладзеную), і вы ўбачыце, што на тое, каб апісаць у сваёй паэме гістарычны факт паўстаньня польскага сялянства супроць абшарнікаў (40-я гады XIX стагодзьдзя), Бруно Ясенскаму ня толькі давялося вывучыць шэраг гістарычных дакумантаў, мэмуараў, „зрабіць рэвізію пэўных гістарычных фактаў", а давялося вывучыць і дэталі тагочаснага побыту сялянства, яго мову, звычаі. Дзякуючы гэтаму, аўтар ня толькі змог правільна паказаць сацыяльную сутнасьць гэтага паўстаньня, а змог яшчэ захаваць і ўвесь тагачасны калёрыт, шляхам ужытку спэцыфічна-фольклёрных форм вершаскладаньня, спэцыфічнае вобразнасьці ў слоўным матар'яле, своеасаблівае мовы, якой гавораць яго героі.

Так, у працэсе руплівай сьвядомай творчай работы нараджаецца мастацкі твор.

Нашым ударнікам, што прыйшлі ў літаратуру, патрэбна яскрава сабе ўяўляць пра складаны працэс творчае работы пісьменьніка. Трэба ведаць, што толькі пры сыстэматычнай вучобе і творчай практыцы можна вырасьці ў самастойную творчую адзінку, разьвіць сваю творчую індывідуальнасьць.

Таму, зусім не дарма спрактыкаваны савецкі пісьменьнік Кузьма Чорны, гаворачы пра вопыт свае работы маладым аўтарам, асаблівую ўвагу аддаў практычна-творчым пытаньням: зьбіраньню, вывучэньню і арганізацыі матар'ялу ў мастацкі твор. Кузьма Чорны асабліва падкрэсьліў на неабходнасьць умець арганізаваць сваю творчую работу, падкрэсьліў тое вялізнае значэньне, якое набываюць у творчай рабоце пісьменьніка яго запісныя кніжкі, літаратурныя і гістарычныя нататкі,

праз якія аўтар зьбірае матар'ял, адзначаючы ў іх найбольш характэрныя і цікавыя тыпы, факты, гутаркі, думкі.

Пьзнаёмцеся з творчай работай практыкаў-пісьменьнікаў, пазнаёмцеся з іх творчай лябараторыяй, з іх чарнавікамі, запіснымі кніжкамі, рознымі варыянтамі асобных зьвенчакоў, рыфмаў, строфаў, і гэта ўсё раскажа вам, што:

„Поэзия—та же добыча радия.
В грамм добыча—в год труды.
Изводишь единого слова ради
Тысячи тонн словесной руды".
(Ул. Маякоўскі)



# НА ПРАВИЛЬНОМ ПУТИ

Литературное движение в нашем отряде развернулось только в момент подготовки к 1-ой Окрлитконференции погранохраны и ВОГПУ. Ранее все начинающие были разрознены, помощи не получали. Партийные и комсомольские ячейки не всегда оценивали литдвижения, и начинающие часто бросали свою работу.

Какие же перемены произошли в этой области за период март-сентябрь?

Прежде всего, шесть начинающих об'единились в литкружок под руководством политорганов, привлекли к себе еще четырех человек, занимающихся литературной работай. Выпустили литературный листок. Внутри кружка наладили теоретическую учебу, связывая ее с творческой практикой. Учеба проходит один раз в декаду, два раза в месяц обсуждаем написанный материал. Планы работы согласуем с командованием и партоганизацией. В результате этого мы наладили реализацию своего творчества через радио, вечера, ильичевки и агитбригаду, часто перед кино читаем новые вещи. К нам пошли в кружок бойцы и из шести человек тепер кружок насчитывает до 17 человек. У вновь прибывших кружок сумел развить желание заниматься серьезно литературной работой.

Творческая продукция стала заметно улучшаться. Если с первых дней отдельные литударники писали:

„...Капитализм мы уничтожим
Для нас это пустяки..."

то тепер рисуют не так, капитализм не букашка, он еще силен и может быть окончательно уничтожен пролетариатом в самых ожесточенных схватках с ним.

Практически осуществляется подход к близкой нам тематике, нашим будням, нацеливая свое творчество на наши больные стороны, показывая смело новое социалистическое погранохраны. Ведется борьба за правдивый показ нашей жизни, шире мобилизовать масы своим творчеством на разрешение повседневных задач.

Вот боец Медведев, понял, что он сюда пришел не только на защиту красных рубежей, не только для того, чтобы быть рядовым, но как рабочему выучиться командиром, примерным, волевым.

„...В днях учебы
армейской,
кипучей
закалялся, учился,
вырос,
Мое имя
в шеренге лучших,
Скоро буду уже
командиром".

Это он так пишет в стихе „Штыком и пером". У него есть ряд и других стихотворений, которые мобилизуют бойцов быть выдержанными, передовыми.

Тов. Яковлев берет другую тему: влияние пограничника на сем'ю. На письмо отца-колхозника, который пишет о крупных успехах в колхозе и несмотря на престарелость готов в любую минуту, продолжая крепить колхоз, выйти с винтовкою в руках на помощь сыну, Яковлев говорит в конце стиха, мобилизуя внимание семьи:

Да, отец,
Шаги у жизни быстры.
Быстрота нам надо,
как и хлеб.
Отдыхать нельзя
Пока есть в мире классы—
Заявляю сын твой—Глеб.

Из этого видно, что пограничник наготове и бьется за то, чтобы не отставала и семья. Только при готовности враг слабеет.

Толдин, Смирнов Павел, Куркин, Цветков и др. также берут конкретные темы и пишут на них стихи.

Сдвиги есть и в области прозы. Кружковец Петр Смирнов за 10 месяцев написал 12 инсценировок, из которых большинство поставлено Над прозой работают Симановский, Глиманович, Павел Смирнов, Яковлев и Медведев. Вся проза взята из пограничной жизни.

Наряду с работой над собой все кружковцы работают и на других участках общественной работы. Литударники являются примерными дисциплинированными бойцами. В связи с этим мы успешно увеличиваем свои ряды, сейчас начинающих насчитывается свыше 50 человек. Базовый кружок при управлении отряда снабдил все литгруппы необходимой литературой. В кружке организованы три творческих брыгады; кружком организован вечер, посвященный 40-ка летию деятельности М. Горького. Развертыванию литдвижения оказывают большую помощь партийные и комсомольские ячейки Развернута подписка на журнал „Напагатове".

Вместе с этим имеются довольно значительные недостатки: не диференцирована учеба, имеются срывы её. Плохо реализуем свое творчество, не выпускаем сейчас „Литлисток" из-за технических неполадок. Нет еще должного внимания литработе со стороны командования и парторганизации. Недостаточно налажено руководство низовыми группами.

Однако мы имеем все возможности эти недостатки преодолеть. Литдвижение в отряде на правильном пути, оно целиком поставлено на службу охраны госграницы и боевой подготовки. Руководство со стороны секции Локаф, журнала „Напагатове", командования и парторганизации отряда поможет кружку выполнить вставшие перед ним задачи.

*И. Яковлев*

Рэдакцыя „Напагатове" просіць усіх байцоў-ударнікаў, закліканых у літаратуру, усіх камандзіраў і палітработнікаў, якія займаюцца літработай, дасылаць у рэдакцыю свае творы як для друкаваньня, так і для кансультацыі.

**Адрас рэдакцыі:** Менск, Камсамольская 5, Ваенвыдавецтву Беларусі, для „Напагатове".